22 красавіка 2016 | № 16 (481)

# Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144
9 772218 214401 10016

Дэмакратыя ў нацыянальнай упакоўцы

стар. 4

**5 НЕ МАГУ ЗНАЙСЦІ ПРАЦУ**

Усё больш беларусаў пагаджаюцца, на малыя заробкі, каб толькі мець працу. Як выжыць, калі раптам яе страціў?

**6–7 ТРЫЦЦАЦЬ ГАДОЎ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ КАТАСТРОФЫ**

Калі на ўваходзе ў дом мяне сустрэла саламянае сонца, я адразу падумаў, што гэта вельмі сімвалічна, бо Ірына Грушавая не раз называла сям’ю Урсулы і Герта Штоернагель «сонечнай».



**8 ВЕЧНАЕ ПАЎСТАННЕ**

Ірландыя шырока святкуе сотую гадавіну паўстання на Вялікдзень — пралог стварэння незалежнай Ірландыі. Чаму падзея стогадовай даўніны дасюль настолькі актуальная для ірландцаў?




**11 МОВА ЖЫЦЦЯ ЗОРЫ КІПЕЛЬ**

Успаміны і дзённікі Зоры Кіпель, выбітнай дыяспарнай дзячкі, чакаюць да сёння не проста свайго чытача, а сваіх спецыялістаў і папулярызатараў

# Мірны атам у кожнай хаце

## З моманту катастрофы на Чарнобыльскай АЭС прайшло 30 гадоў



Сяргей ПУЛЬША

Штогод нам рапартуюць, што мы перамагаем Чарнобыль. Раней «забруджаныя» і адселеныя вёскі раптам становяцца «чыстымі».

У мінулым годзе, напрыклад, кіраўнік дэпартамента па ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС Уладзімір Чэрнікаў паведаміў, што за апошнія 5 гадоў прыкладна ў двух сотнях населеных пунктаў аднавіўся (знізіўся да нормы) натуральны радыяцыйны фон. «Раз на пяць гадоў ідзе планавая ацэнка зямель... З 1 студзеня 2016 года каля 200 населеных пунктаў афіцыйна стануць чыстымі. Гэта значыць, што там зафіксавана актыўнасць рэчываў менш за 1 Кюры на квадратны кіламетр», — казаў у ліпені мінулага года Чэрнікаў.

Такія хітрыкі чыноўнікаў — не дзіва. Чэрнікаў дзеля заспакаення насельніцтва і прыкладу сваёй ударнай працы паблытаў боб з гарохам. «Чысціня» — гэта не значыць «бяспека». А бяспека залежыць не ад Кюры, а ад моцы атрыманай дозы радыяцыі і яе паглынутай дозы.

Сайт Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя Мінпрыроды Беларусі тлумачыць, што «для ацэнкі ўздзеяння на арганізм чалавека выкарыстоўваюцца паняцці «эквівалентная доза» і «магутнасць эквівалентнай дозы». Вымяраюцца, адпаведна, у зівертах і зівертах у гадзіну. У побыце можна лічыць, што 1 зіверт роўны 100 рэнтгенам. Можна паказаць, што кропкавая крыніца радыяцыі актыўнасцю 1 кюры (для пэўнасці разглядаем цэзій–137) на адлегласці 1 метр ад сябе стварае магутнасць экспазіцыйнай дозы прыблізна 0,3 рэнтгена ў гадзіну».

У «бяспечных» раёнах сярэднегадавая доза апраменьвання не павінна перавышаць 1 мілізіверт у год. Улічваючы, што 1 кюры заўсёды ў нас пад нагамі, за колькі часу можна набраць 1 мілізіверт?

Можа быць, менавіта за гэтую эквілібрыстыку Лукашэнка адправіў Чэрнікава ў адстаўку?

Адзін кюры — многа ці мала? Праблемай уздзеяння на арганізм малых дозаў радыяцыі ў нас ніхто не займаецца. А таго, хто займаўся — прафесара Юрыя Бандажэўскага, — спачатку пасадзілі ў турму, а потым выціснулі з краіны.

Напярэдадні 30-годдзя аварыі на ЧАЭС «Грынпіс» зрабіў цікавы даклад-даследаванне: «Атамныя шнары: няспынныя наступствы Чарнобыля і Фукусімы». Неяк дзіўна гэты дакумент закрануў толькі Расію і Украіну. Лічбы па Беларусі — толькі ўскосныя. Тым не менш, у гэтым дакладзе адзначаецца, што ў выніку аварыі на ЧАЭС «па гэты дзень больш за 10 тысяч квадратных кіламетраў зямлі непрыдатныя для эканамічнай дзейнасці, а прыкладна 5 мільёнаў чалавек пражываюць у раёнах, афіцыйна прызнаных забруджанымі, з іх 1,1 мільёна ў Беларусі».

Канешне, «Грынпіс» адзначае, што «ўзровень забруджвання асноўнымі радыеактыўнымі ізатопамі, такімі, як цэзій–137 і стронцый–90, паменшыўся ўдвая ў параўнанні з 1986 годам». Зразумела, бо ў сярэднім 30 гадоў — перыяд паўраспаду гэтых элементаў. Аднак у дакладзе кажацца і пра тое, што «нягледзячы на тое, што канцэнтрацыя цэзія–137 у большасці сельскагаспадарчых прадуктаў паменшылася, гэтыя ізатопы па-ранейшаму прысутнічаюць у грыбах, ягадах і мясе на забруджаных тэрыторыях, а ў некаторых выпадках іх канцэнтрацыя, наадварот, узрасла».




Больш за тое, «канцэнтрацыя стронцыю–90 у збожжы значна вырасла за апошнія 15 гадоў, паколькі гэты радыенуклід вылучаецца часціцамі паліва, а яго біяназапашванне ўзмацняецца», адзначае Грынпіс.

Афіцыйна «чыстыя» тэрыторыі даюць афіцыйна «чыстую» прадукцыю ўсёй краіне. Такім чынам радыяцыя трапляе па ўсёй краіне, і не куды-небудзь, а непасрэдна ўнутр беларусаў. Той жа прафесар Юры Бандажэўскі, які зараз працуе ва Украіне, у нядаўнім інтэрв’ю інтэрнэт-выданню Naviny.by адзначыў: «Трэба разумець, што радыяцыя пасля выбуху ЧАЭС праз прадукты харчавання распаўсюдзілася па ўсёй краіне. Нават калі малако па нормах з’яўляецца чыстым, але змяшчае пэўную колькасць радыенуклідаў, гэта дрэнна. У маім разуменні норма — гэта нуль. У прадуктах харчавання наогул не павінна быць радыенуклідаў. На працягу многіх гадоў, уключаючы савецкія часы, Беларусь з’яўлялася ахвярай радыеактыўнага заражэння. І многае ў частцы негатыўных дэмаграфічных працэсаў і захворвання насельніцтва з’яўляецца наступствам радыеактыўнага ўздзеяння».

**Канцэнтрацыя стронцыю–90 у збожжы за апошнія 15 гадоў толькі вырасла**

І, на яго думку, нават жорсткі кантроль за прадуктамі, зробленымі ў «адносна чыстых» зонах, нам ужо не дапаможа. «Баюся, што сітуацыю немагчыма палепшыць. Гэта тое ж самае, што адсекчы чалавеку галаву і спадзявацца, што ён яшчэ пажыве. Я не бачу, што можна зрабіць. Згублена занадта шмат часу», — адзначае Бандажэўскі.

За апошні месяц нас пакінулі некалькі вядомых асобаў: савецкі палітвязень Сяргей Ханжанкоў, паэт Ніл Гілевіч, мовазнаўца Зміцер Саўка, прадзюсар Алена Вольская, музычны крытык Вітаўт Мартыненка. І толькі апошні памёр з-за цукровага дыябету, усе астатнія — ад анкалогіі. Здавалася б, пры чым тут Чарнобыль?

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРАНАВІЧЫ: Рыгор Грык зноў аштрафаваны

**Суддзя Баранавіцкага суда Вольга Копач пакарала грамадскага актывіста Рыгора Грыка штрафам у памеры 40 базавых велічынь па абвінавачванні ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве паўторна на працягу года.**



Фота www.svaboda.org

Грык пакараны за акцыю прадпрымальнікаў у Мінску 28 лютага. На акцыю прадпрымальнікаў Рыгор Грык выйшаў у паласатай робе з плакатам са словамі Рыгора Барадуліна: «Адкінем страх, сумненне і ныццё! За Беларусь, за годнае жыццё!». Ён таксама трымаў у руках Канстытуцыю РБ і плакацік з надпісам: «SOS!». Пры гэтым ніхто да яго падчас акцыі не падыходзіў, ніхто не рабіў заўвагі.

Судовы працэс адбываўся без удзелу сведкаў — міліцыянтаў. Яны не змаглі прыехаць «па сямейных абставінах». Судовае пасяджэнне доўжылася ўсяго 6 хвілін. Суддзя вынесла рашэнне, не выходзячы з залы, заявіўшы, што «пасля ўсебаковага даследавання» яна «прыйшла да высновы, што віна Грыка даказаная».

**Паводле spring96.org**

### БАРЫСАЎ: ІП створаць прафсаюз

**У Барысаве плануецца мітынг прадпрымальнікаў, на якім створаць прафсаюз «Салідарнасць». Заяву ў мясцовы гарвыканкам падаў сябра «Грамады» і былы прадпрымальнік Сяргей Абрамовіч. Мітынг намечаны на май.**

На думку Абрамовіча, трэба інфармаваць грамадства пра наступствы прэзідэнцкага ўказа № 222. Бо ўлада толькі прыпыніла дзеянне гэтага ўказу, каб спыніць хвалю прадпрымальніцкіх пратэстаў. Цяпер не праводзяцца праверкі на наяўнасць сертыфікатаў якасці, але яны неўзабаве распачнуцца, і тады паўстане праблема і канфіскацыі тавараў, і штрафаў памерам 200–400 базавых велічыняў. Страціўшы працу на рынках, прадпрымальнікі будуць вымушаны шукаць яе на прадпрыемствах і ў арганізацыях.

Колькасць удзельнікаў акцыі мусіць скласці каля сотні чалавек. Мітынг адбудзецца незалежна ад таго, дазволіць ці забароніць яго Барысаўскі гарвыканкам.

**Паводле «Радыё Рацыя»**

### ВІЦЕБСК. Замест пікетаў — бурбалкі

**Віцебскія сябры аргкамітэту па стварэнні партыі БХД, якім мясцовыя ўлады не дазваляюць праводзіць пікеты па сацыяльных праблемах, вымушаны шукаць новыя формы грамадскай актыўнасці.**

18 красавіка ў Віцебску адбыўся перформанс «Бурбалкі беларускай стабільнасці». Удзельнікі пускалі мыльныя бурбалкі ў мікрараёне Білева. На пытанні мінакоў, чаму дарослыя людзі займаюцца дзіцячай забавай, адказвалі тое ж, што казалі б на забароненых пікетах.

«Усё, што абяцаюць улады наконт паляпшэння, умацавання дабрабыту свайго народу, якому яны служаць «верай і праўдай», — бурбалкі. Бурбалкі — гэта і незбудаваны паліклінічны комплекс у Білева, і школа, і дзіцячы садок, якіх бракуе жыхарам новага мікрараёну. Бурбалка — гэта і абяцаная паліклініка ў раёне Поўдзень-7, бурбалка — новы корпус бальніцы ў Оршы, бурбалка — новая паліклініка ў Наваполацку. Бурбалкі — гэта няспраўджаныя абяцанні: вунь яны лятуць, празрыстыя, вясёлкавыя, радуюць вока. Імгненне — і яны зніклі, як ніколі не было», — патлумачыла сэнс перформансу Тацццяна Севярынец.

Праблема медычнага абслугоўвання — ці не самая важная для Беларусі, лічаць актывісты БХД. Але абмеркаваць гэтую праблему не дазваляюць мясцовыя ўлады. Так, у Першамайскім і Чыгуначным раёнах Віцебска былі забаронены пікеты, правядзенне якіх планавалася на 8 красавіка. А ў Оршы быў забаронены пікет супраць спынення будаўніцтва новага корпуса шпіталя, запланаваны на 6 красавіка.

**Паводле spring96.org**

# Алеся Лагвінца чакае суд

**На намесніка старшыні Руху «За Свабоду» Алеся Лагвінца склалі пратакол за ўдзел у акцыі 25 сакавіка.**

«25 сакавіка, у 18.50 па праспекце Незалежнасці, 73 у г. Мінску прыняў актыўны ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу без дазволу Мінгарвыканкаму, што выяўлялася ў сумесным масавым знаходжанні грамадзянаў па ўказанаму адрасу, выкрыкваў лозунгі, чым парушыў прадугледжаны арт. 10 Закона РБ «Аб масавых мерапрыемствах», — сказана ў пратаколе за подпісам старшага ўчастковага інспектара Савецкага РУУС Мінска Віталія Ермаловіча.

Па ягоных дадзеных, у дзеяннях Лагвінца заўважаныя прыкметы парушэння артыкула 23.34 ч. 1 (парушэнне парадку арганізацыі ці правядзення масавых мерапрыемстваў) КоАП.

«Бачна, што мне прыйшоў «тыповы пратакол» на заяўніка Дня Волі. Пратакол — узор міліцэйскага фармалізму і непрафесійнасці», — пракаментаваў сайту Рух.by Алесь Лагвінец.

Па-першае, кажа ён, «пратакол ігнаруе факт, што «сумеснае масавае знаходжанне» грамадзянаў па адрасе пр-т Незалежнасці, 73 было дазволенае Мінгарвыканкамам як месца збору ўдзельнікаў святкавання».

«Па-другое, як арганізатар я знаходзіўся на месцы збору грамадзянаў, якія нават паводле вельмі недэмакратычнага закону «Аб масавых мерапрыемствах» маюць права падчас збору абмяркоўваць уголас мэты і прычыны іх сходу. Як арганізатар я зачытаў зварот старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы да беларускага народу», — дадаў Лагвінец.

Суд па справе Лагвінца прызначаны на 17:00 28 красавіка ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска. Суддзя на працэсе — Наталля Вайцяховіч.

**Паводле рух.by**

# Спыніце палітычныя рэпрэсіі!

**Аргкамітэт па стварэнні Руху салідарнасці «Разам» прыняў заяву, у якой патрабуе спыніць палітычныя рэпрэсіі і вызваліць палітвязняў Андрэя Бандарэнку і Міхаіла Жамчужнага.**

У заяве адзначаецца, што сёлета рэзка ўзрасла колькасць аштрафаваных актывістаў апазіцыі за ўдзел у негвалтоўных мірных вулічных акцыях. «Ва ўмовах адсутнасці незалежнага суда ў Беларусі, гэты працэс цалкам залежыць ад ілжэсведчанняў міліцыянтаў і ігнаруе прававыя нормы», — зазначаецца ў заяве.

У той жа час адбыліся вобшукі ў кватэрах грамадзян, якія прымаюць удзел у вайсковых дзеяннях на ўкраінскім баку на Данбасе, зачыстка фанатаў футбольных клубаў, якія не падзяляюць прарасійскую палітыку. Узгадваецца прысуд суда Фрунзенскага раёна Мінска, які накіраваў 79-гадовага Аляксандра Лапіцкага на прымусовае псіхіятрычнае лекаванне.

Аргкамітэт па стварэнні Руху салідарнасці зазначае, што ўзмацненне рэпрэсій адбываецца «на фоне безадказных заяваў дзяржаўных дзеячаў краін заходняй дэмакратыі аб наданні карт-бланш рэжыму Лукашэнкі».

Заяўнікі звяртаюцца да беларускага грамадства і міжнароднай супольнасці з просьбай падтрымаць канкрэтныя патрабаванні: спыніць практыку адміністрацыйных судоў над актывістамі апазіцыі за ўдзел і арганізацыю мірных вулічных негвалтоўных акцый, адмяніць ранейшыя рашэнні адміністрацыйных судоў і скасаваць ужо вынесеныя штрафы. А таксама прывесці заканадаўства краіны, што рэгулюе правядзенне вулічных акцый, у адпаведнасць з міжнароднымі пагадненнямі, ратыфікаванымі краінай; адрадзіць інстытут незалежнай адвакатуры; прыцягнуць да адказнасці ілжэсведкаў-міліцыянтаў.

Аўтары заявы прапануюць правесці перамовы паміж Беларуссю і Украінай наконт легалізацыі беларусаў, якія ваявалі на ўкраінскім баку, і прыцягнуць да адказнасці тых, хто ваяваў з Украінай. А таксама патрабуюць неадкладнага вызвалення прадстаўнікоў патрыятычнай фанацкай супольнасці, праваабаронцаў Андрэя Бандарэнкі, Міхаіла Жамчужнага і адмены прысуду Аляксандру Лапіцкаму.

«Адсутнасць рэакцыі на ўзмацненне палітычных рэпрэсій у Беларусі можа не толькі справакаваць рэжым Лукашэнкі да ўзмацнення палітычных рэпрэсій, але і дапамагчы планам Пуціна ператварыць Беларусь у новы Данбас», — лічаць аўтары заявы.

**Паводле прэс-рэлізу**

# Бывай, Міша Кацюшэнка!

**15 красавіка сваякі, сябры і калегі развіталіся з Міхасём Кацюшэнкам — легендарным рэдактарам беларускай моладзевай газеты «Знамя юности».**



Менавіта дзякуючы талентам Міхася Кацюшэнкі, які ўзначальваў «Знаменку» ў 1979–1984 і ў 1992–1995 гадах, гэтая газета, што была друкаваным органам ЦК ЛКСМБ, стала самай папулярнай у Беларусі, яе чыталі і абмяркоўвалі людзі ўсіх узростаў і прафесій, а наклад выдання сягаў амаль 800 тысяч экземпляраў.

«Міша вылучаўся незвычайным для таго часу дэмакратызмам. Ён ніколі не фанабэрыўся, не выпучваў сваю пасаду, заўсёды ўважліва выслухоўваў любога чалавека і ставіўся да яго так, як ён таго заслугоўвае, — узгадаў ягоны сябра і паплечнік Юрась Вельтнер. — Ён заўжды бараніў журналістаў ад грому і маланак камсамольскага, савецкага і партыйнага начальства. Памятаю, як нашага сабкора ў Гродна, маладога таленавітага журналіста Анатоля Ярася заўважылі на Вялікдзень у царкве. Гэта дайшло да ЦК камсамола. Мішу тузалі і ўпікалі, як ён можа ўтрымліваць на працы ў камсамольскай газеце верніка. На ўсю гэтую валтузню Кацюшэнка адказваў абяцаннем разабрацца і пакараць журналіста, а насамрэч перавёў яго ў Мінск, дзе Анатоль Ярась шмат гадоў паспяхова працаваў».

У Міхася Кацюшэнкі была шырокая і добрая душа — ён сам жыў з густам і даваў хораша жыць іншым. Ён вельмі любіў жыццё, быў адкрыты да людзей, быў заўсёды гатовы дапамагчы, а часам і выратаваць чалавека ў складанай сітуацыі.

Светлая яму памяць і лёгкіх нябёсаў...

**Марат Гаравы**

## Папярэджваючыя візіты

**Мінская міліцыя пачала вечаровыя абходы кватэр грамадскіх актывістаў.**

Трое супрацоўнікаў міліцыі 19 красавіка каля 20 гадзін вечара спрабавалі ўварвацца ў кватэру да Максіма Вінярскага, доўга грукаючы ў дзверы. Яны ніяк не тлумачылі свае дзеянні, таму Вінярскі вырашыў ім не адчыняць.

Прыкладна ў той жа час супрацоўнікі міліцыі завіталі на падворак да актывісткі і рэжысёра Вольгі Нікалайчык. Праз дзверы яны адказалі Вользе, што з Партызанскага РУУС і хочуць задаць некалькі пытанняў. Як распавяла ў Facebook Вольга, міліцыянты былі не ў форме: «Адкройце, кажуць, нам бы вадзічкі. Мы толькі пагаварыць. Пыталіся праз дзверы, што я рабіла 16 сакавіка вечарам? А ці была я на Плошчы Перамогі? «Я нічога не парушала», — сказала ім і пайшла кіно глядзець».

Праваабаронцы мяркуюць, што такія дзеянні сілавікоў звязаныя са спробамі збіць грамадзянскую актыўнасць напярэдадні адзначэння 30-годдзя Чарнобыльскай катастрофы.

**Паводле spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Калі будзе адстаўка ўрада?

Сяргей САЛАЎЕЎ

**«Адкрытая і экспартна арыентаваная беларуская эканоміка па-ранейшаму знаходзіцца пад уздзеяннем рэзкай негатыўнай змены знешняга эканамічнага асяроддзя і ўмоў гандлю», — піша нават часопіс «Падаткі Беларусі».**

Толькі там забываюць сказаць, што пад гэтым уздзеяннем яна знаходзіцца ўжо гадоў з дзесяць. Час бы ўжо прызвычаіцца.

І да гэтага даўно прызвычаіўся народ. Але чыноўнікі — такая каста, якая жыве ў паралельным свеце. І прызвычаіцца да гэтага не могуць. Таму і ўзнікаюць «непаняткі», як у Аляксандра Рыгоравіча, які днямі заслухаў справаздачу па выніках развіцця краіны ў першым квартале бягучага года.

Справаздача беларускага правадыра не задаволіла. «У мінулым годзе мы дамовіліся аб развіцці нашай краіны ў бягучым годзе. Былі пастаўлены канкрэтныя задачы. Тады мы дамовіліся, што па паўгоддзі дамо сур'ёзную ацэнку працы адпаведных структур, перш за ўсё ўрада, Нацыянальнага банка, службовых асоб, у тым ліку губернатараў, па развіцці Беларусі ў гэтым годзе і выкананню даведзеных заданняў. Першая адсечка — першы квартал. Ён прайшоў. Паўгоддзе — гэта падвядзенне вынікаў з адпаведнымі высновамі», — нагадаў Лукашэнка.

«Матрыца задач для вертыкалі ўлады ў мяне на стале. Чырвоным колерам пазначана тое, што не выканана. Сіні колер — поспехі. Гэтая матрыца ў цэлым у чырвоным колеры», — пабачыў кіраўнік дзяржавы. І дадаў, што «хацелася б пачуць тлумачэнні ў сувязі з гэтым».

А што тут тлумачыць? Усё даўно растлумачана. Чытайце «Падаткі Беларусі»: «рэзкая негатыўная змена» і гэтак далей... А чым займаўся ўрад і чыноўнікі? Зразумела ж, яны там, у паралельным свеце, пісалі сацыяльна-эканамічныя праграмы развіцця краіны на 2016-ы і да 2020-га года. Потым, выглянуўшы ў акенца рэальнасці і пабачыўшы, што нафта і долар ужо даўно пераўзышлі запланаваныя на 2020-ы год параметры, перапісвалі іх. Потым узгаднялі ўсю гэтую справу з парламентам, сапсавалі тоны паперы, і ўсё роўна не здолелі «выйсці ў рэал», як кажуць інтэрнэтчыкі.

«Праграма дзейнасці ўрада да 2020 года — гэта добры дакумент, але, на жаль, не пра нас. Напрыклад, галоўнымі ўмовамі ў ёй названы: макраэканамічная стабільнасць, беспазыковае фінансаванне знешняга доўгу і назапашванне золатавалютных рэзерваў. Гэтыя ўмовы проста ўнутрана паміж сабой несумяшчальныя, таму ніякі ўрад гэтыя задачы выканаць не ў стане», — кажа пра «паралельны свет ураду» эканаміст Сяргей Чалы.



Як адзначыў эканаміст Вадзім Іосуб, «усё новыя ўрадавыя прагнозы грунтуюцца на адным параметры — цэнах на нафту. Афіцыйныя планы на новую пяцігодку прадугледжваюць іх паступовы рост, аднак яснага адказу на тое, што будзе з эканомікай, калі кошт нафты расці не будзе, мы не ведаем».

Зазначым, што на гэтым тыдні найбуйнейшыя краіны-вытворцы нафты АПЕК і нафтаздабываючыя дзяржавы, якія не ўваходзяць у картэль, не здолелі дасягнуць пагаднення аб замарозцы здабычы, чым не вырашылі праблему празмернасці прапановы на сусветных рынках. Пасля гэтага Расія ў аднабаковым парадку паведаміла, што можа падняць план здабычы нафты на гэты год. А значыць, прапанова нафты павялічыцца, а яе кошт меначыта ўпадзе, на што так не разлічваюць беларускія чыноўнікі.

На сустрэчы з урадоўцамі Аляксандр Рыгоравіч зазначыў, што ў адказных асоб ёсць яшчэ квартал, каб «згрупавацца і паказаць адпаведныя вынікі». «Калі не, прыйдуць іншыя людзі, якія павінны гэтым займацца», — заявіў Лукашэнка.

А калі ва ўрада няма плану, як выканаць тую «матрыцу», то праз тры месяцы мы чакаем адстаўкі ўрада? Напэўна, не, бо «лавы запасных» у кіраўніка дзяржавы папросту няма. Ну, можна зрабіць прэм'ерам Кірылу Рудага, а кім замяніць, напрыклад, Лілію Ананіч з Міністэрства інфармацыі? Альбо міністра працы і сацыяльнай абароны Марыяну Шчоткіну? Нармальны міністр сацыяльнай абароны пасля рашэння пра пенсіі сам бы сышоў у адстаўку, а яна мужна застаецца на сваёй пасадзе.

Таму, акрамя чарговай вывалачкі і «апошняга кітайскага папярэджання», наўрад ці ўраду варта чаго палохацца.

А тут яшчэ і цікавы, якраз «паралельны» варыянт выхаду з крызісу прапанавалі расійскія СМІ. На іх думку, трэба ўводзіць адзіную валюту ў межах ЕАЭС.

Канешне, гэтак расіяне адгукнуліся на словы Пуціна падчас «прамой лініі з народам», калі той заявіў, што тэма адзінай валюты «цікавая», але папрасіў пачакаць да тых часоў, пакуль «узроўні развіцця эканомік і структура эканомік краін, якія ўваходзяць у ЕАЭС, зраўняюцца».

Тое, што яны не зраўняюцца ніколі, гэта і вожыку зразумела. Як Беларусь без сваёй нафты і газу з насельніцтвам, роўным Маскве, можа зраўняцца з «сусветнай бензакалонкай», на тэрыторыі якой могуць размясціцца аж 34 гэтых Беларусі? Пра гэта расійскія СМІ не задумаліся, для іх Пуцін сказаў — гэта Пуцін сказаў. А таму яны ўсур'ёз пачалі разважаць, што «адзіная валюта будзе спрыяць далейшай інтэграцыі, палепшыць гандлёва-эканамічную дзейнасць, будзе ўстойлівай» і гэтак далей.

Для беларускага ўрада гэта добра, звыкла і якраз у іх манеры — зараз кінуць усе высілкі і спадзяванні на «адзіную валюту», а калі з гэтага нічога не атрымаецца, зноўку казаць пра «рэзкую негатыўную змену знешняга эканамічнага асяроддзя» і надалей нічога не рабіць.

А тым часам узровень зарэгістраванага беспрацоўя ў Беларусі за 3 месяцы гэтага года вырас на трацціну — з 0,9% ад колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва на 1 студзеня 2016 года да 1,2% на 1 красавіка 2016 года. Аб'ём ВУП у Беларусі ў I квартале 2016 года знізіўся на 3,6% у параўнанні з I кварталам 2015 года. Грашовыя даходы насельніцтва Беларусі ў студзені-лютым 2016 года ў параўнанні са студзенем-лютым 2015 года знізіліся на 6,6%. Аб'ём інвестыцый у асноўны капітал у першым квартале 2016 года зменшыўся ў параўнанні з аналагічным перыядам 2015 года на 26,3%.

Можна яшчэ шмат лічбаў прыводзіць, але за такія паказчыкі адпраўляць урад у адстаўку трэба ўжо зараз, не чакаючы правалу ў другім квартале.

Адзіная добрая навіна тыдня: возера Нарач трапіла ў ТОП папулярных курортаў СНД па версіі расійскага турыстычнага партала Travel.ru. Шкада толькі, што ў Расіі таксама крызіс, супастаўны з нашым. І таму расійскія турыстычныя грошы беларускую эканоміку не выратуюць.

**Аб'ём ВУП Беларусі знізіўся на**

**3,6%**

**у параўнанні з першым кварталам 2015 года**

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Вячаслаў Сіўчык

**Інцыдэнт з лідарам аргкамітэта па стварэнні Руху салідарнасці «Разам» паставіў крыж на ўяўнай беларускай «лібералізацыі».**

Міліцыянты затрымалі Вячаслава Сіўчыка 19 красавіка а трэцяй гадзіне ночы ў пад'ездзе ўласнага дома. Пры гэтым Сіўчыка збілі, сарвалі верхнюю вопратку і закавалі ў кайданкі. Маўляў, Сіўчык быў у стане алкагольнага ап'янення і нецэнзурна лаяўся. Як ён пры гэтым здолеў дабрацца дадому — незразумела.

Сіўчыка адвезлі ў РУУС Цэнтральнага раёна Мінска і паспрабавалі асудзіць за дробнае хуліганства і супраціў работнікам міліцыі. Прычым, пры гэтым не дазволілі перадаць яму акуляры, без якіх ён нават азнаёміцца са справай не мог. Аднак у судзе міліцыянты, як звычайна, настолькі заблыталіся ў паказаннях, што суддзя Наталля Вайцэховіч вымушаная была адправіць справу «на дапрацоўку».

Гэтым інцыдэнтам міліцыянты сур'ёзна сапсавалі бачнасць «лібералізацыі», якая стварылася ў краіне апошнімі месяцамі.

## Анатоль Калінін



**Беларускі віцэ-прэм'ер стаў інтэрнэт-зоркай сусветнай велічыні, дзякуючы свайму каментару тэлеканалу АНТ на ТІВО–2016.**

Даслоўна Калінін сказаў: «Большасць нашых грамадзян карыстальнікаў IT-тэхналогіямі і інтэрнэт-рэсурсам з 9,5 мільёна грамадзян маюць абаненцкае прыкладанне і карыстанне каля 13 мільёнаў нашых грамадзян. Гэта сведчыць аб тым, што створаны рэсурс, які дазваляе любому карыстальніку выкарыстоўваць самыя сучасныя трафікі для ўкаранення інтэграцыі і развіцця сваіх магчымасцяў попыту інтарэсаў».

Калі вы не карыстаецеся інтэрнэтам і нічога ў гэтым не зразумелі, не палохайцеся. Тыя, хто карыстаюцца інтэрнэтам, таксама нічога не зразумелі. Але відавочна, што ў спадара Калініна ёсць адна вельмі станоўчая якасць: несці ахінею з разумным выглядам.

## Станіслаў Гладчанка



**21-гадовы спартовец зусім нядаўна трапіў у дарослы спорт, але якраз з ім спецыялісты перш за ўсё звязваюць будучыню беларускага фрыстайла.**

Дэбютаваўшы з месца ў другой сотні агульнага заліку, па выніках мінулага сезону Станіслаў Гладчанка ўвайшоў у дзясятку наймацнейшых, заняўшы выніковую восьмую пазіцыю. На апошнім этапе Кубка Еўропы ён заваяваў персанальную залатую ўзнагароду і зрабіў свой унёсак у выніковую перамогу зборнай Беларусі ў Кубку нацый.

Адначасна ён — чарговы спартовец, які заявіў пра прыхільнасць да беларускай мовы, «Пагоні» і бел-чырвона-белага сцягу. «Асабіста я заўсёды за Беларусь, і да беларускай мовы стаўлюся вельмі станоўча», — сказаў ён у інтэрв'ю «Радыё Свабода».

«Справа ў тым, што, пачынаючы з малодшых класаў, ніхто з намі, апроч настаўніка беларускай мовы, па-беларуску не размаўляў. Адкуль узяцца нацыянальнай ідэі, калі чалавек пастаянна ў рускамоўным асяроддзі?.. Мне падаецца, каб рабілі больш упор на беларускую мову, пачынаючы са школы, каб пашыралі яе ўжытак, усё б наладзілася. Як толькі з'явіцца моўнае атачэнне, усё паступова стане на свае месцы», — кажа спартовец.

Накont нацыянальнай сімволікі на трыбунах фрыстайліст зазначыў: «Нядрэнна хоць трохі паглыбіцца ў гісторыю. З іншага боку, сапраўды, чамусьці адразу бачыцца апазіцыя, якая ходзіць пад бел-чырвона-белым сцягам. Я хоць тыя часы амаль не заспеў, але ведаю, што ў пачатку 1990-х гэтая сімволіка была дзяржаўнай. Ну, калі людзям хочацца заўзець з «Пагоняй», чаму не, навошта абмяжоўваць? Асабіста я нічога крамольнага ў такім выбары не бачу. Для пачатку тым жа міліцыянтам самім трэба зразумець, адкуль пайшлі сімвалы, з якімі яны змагаюцца, — гэта не апазіцыя ж на самай справе іх прыдумала».

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Дэмакратыя ў нацыянальнай упакоўцы




**Дэмакратычны транзіт паводле заходніх лякалаў спараджае крызісы нацыянальных ідэнтычнасцяў. Але якія альтэрнатывы?**

Калі верыць сакавіцкаму апытанню НІСЭПД, 88% беларусаў лічаць, што эканоміка знаходзіцца ў крызісе. Такое адзінства меркаванняў у рэспубліцы-партызанцы фіксуецца вельмі рэдка. Нават ЦВК пад кіраўніцтвам Лідзіі Ярмошынай на яго не прэтэндуе.

Прычына адзінства палягае на паверхні і патрэбы ў каментарах не мае. Калі нешта і варта пракаментаваць, дык гэта фенаменальную здольнасць «дзяржавы для народа» неадэкватна ацэньваць тое, што адбываецца.

У красавіку беларускі парламент аднавіў сваю працу. Натуральна, не абышлося без натхняльных прамоваў старшыняў палат. Тэксты выступаў Уладзіміра Андрэйчанкі і Міхаіла Мясніковіча былі апублікаваныя. Я іх уважліва прачытаў, аднак ні ў адным з тэкстаў не сустрэў слова «крызіс». Такім чынам, няма сэнсу спадзявацца на тое, што народныя абраннікі накіруюць свае намаганні на яго пераадоленне.

Пра ўзровень адэкватнасці можна меркаваць ужо па загалоўках выступленняў: «Галоўны прыярытэт — развіццё і стабільнасць» (Андрэйчанка), «Палітычная воля, эфектыўнае заканадаўства і адказная праца кадраў — аснова пасяховага сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны» (Мясніковіч).

Ключавое слова ў загалоўках — «развіццё», а тое, што па факце Белстат другі год запар фіксуе падзенне ВУП, старшыні палат браць пад увагу не жадаюць.

Але з пункту гледжання фармальнай логікі гэта можна патлумачыць па-іншаму. Слабым месцам «беларускай эканамічнай мадэлі развіцця» (такая яе поўная назва) з'яўляецца... развіццё. Пра гэта Адміністрацыі прэзідэнта, ураду, выбаршчыкам і хочуць нагадаць старшыні палат. У такім кантэксце любая згадка «палітычнай волі і адказнай працы кадраў» таксама выглядае гарманічна. Менавіта гэтых якасцяў і не хапае сёння на вяршыні ўладнай «вертыкалі».

## Праблема канстытуцыйнага маштабу

На пытанне пра тое, што адбываецца ў Беларусі, я, як правіла, кажу: калі абмежавацца адным словам, — дэградацыя. Што дэградуе? Усё — культура, дзяржава, грамадства, эканоміка... Спіс можна працягнуць...

Працэй за ўсё казаць пра дэградацыю эканомікі. Крытэрыі канкрэтныя. Недахопу ў статыстычных дадзеных няма. За мінулую пяцігодку фактычныя тэмпы росту па большасці найважнейшых паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця апынуліся ніжэй за планаваныя на парадак. Пачатак новай пяцігодкі адзначаны ўжо адмоўнымі тэмпамі росту. Але выключна эканамічных праблем у прыродзе не бывае.

Асабіста я ў эканоміцы разбіраюся на ўзроўні шараговага чытача газет. Мне бліжэй палітагічны і сацыялагічны погляд на беларускую мадэль. Таму я з цікавасцю чытаю аналітычныя артыкулы калегаў па цэху, прычым і тых, якія выказваюць афіцыйны (дзяржаўны) пункт гледжання. Напрыклад, з апошнім дазваляе азнаёміцца, што называецца, з першых рук артыкул «Самабытныя каштоўнасці», апублікаваны ў часопісе «Беларуская думка» (№ 2 за 2016 г.). Яго аўтары — рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Юрый Бондар і доктар філасофскіх навук Леў Крыштаповіч.

Калі меркаваць па загалоўку, артыкул прысвечаны каштоўнасцям. Словазлучэнні «сістэма каштоўнасцяў», «гістарычныя каштоўнасці беларускага народа», «каштоўнасныя арыентацыі ў адносінах да нацыянальнай палітычнай сістэмы» і падобныя да іх прысутнічаюць амаль у кожным абзацы. Аднак ні адной канкрэтнай каштоўнасці аўтары так і не назвалі, затое перакануча, са спасылкамі на міжнародныя аўтарытэты, растлумачылі, чым нашы каштоўнасці, наша культура, наша ідэалогія і наша дэмакратыя адрозніваюцца ад нянашых.

Падмацую сказанае цытатай: «Дэмакратыя ў заходняй упакоўцы абмяжоўваецца толькі заходнімі краінамі, і яе немагчыма экстрапаляваць на іншую частку сусветнай супольнасці менавіта па прычыне адсутнасці крытэрыяў, якія абумовілі станаўленне інстытутаў заходняга грамадства».

Рашучае сцвярджэнне. І я з ім згодзен. Але мая згода спараджае праблему канстытуцыйнага маштабу. Адкрываем асноўны закон. Чытаем артыкул першы, другі і чацвёрты: «Рэспубліка Беларусь — унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава»; «Чалавек, яго правы, свабоды і гарантыі іх рэалізацыі з'яўляюцца найвышэйшай каштоўнасцю і мэтай грамадства і дзяржавы»; «Дэмакратыя ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на аснове разнастайнасці палітычных інстытутаў, ідэалогій і поглядаў».

Хто скажа, што згаданыя прыклады супярэчаць духу і літары «дэмакратыі ў заходняй упакоўцы», хай першым кіне ў мяне камень.

## Куды пераходзім?

Між іншым, дзеючы варыянт Канстытуцыі прыняты «найбольш дэмакратычным, цывілізаваным шляхам — шляхам рэферэндуму». Гэта не маё меркаванне. Яго я запазычыў з выступу адзінага палітыка (АП) на першым Усебеларускім народным сходзе. Але нешта я не ўзгадаю, з якіх глыбінь нацыянальнай культуры быў выняты прынцып змены асноўнага закона з дапамогай рэферэндуму.

Дарэчы, цяперашняя двухпалатная структура парламента паўстала толькі таму, што так арганізаваны прадстаўнічы орган улады «ў большасці дэмакратычных краінаў свету».

Аўтары артыкула адпрэчваюць універсальнасць заходняй мадэлі, бо яна «не адпавядае ўмовам Беларусі, як і іншых пераходных грамадстваў на еўразійскім, азіяцкім, афрыканскім, лацінаамерыканскім прасторах».

Выдатнае прызнанне. Вось з гэтага месца хацелася б падрабязней. Знаходжанне ў пераходным стане азначае, што беларускае грамадства кудысьці пераходзіць, што яго цяперашні стан з'яўляецца часовым. Статус часовай мае і беларуская мадэль эканамічнага развіцця. Нездарма ж АП на другім Усебеларускім народным сходзе аднёс Беларусь да ліку «іншых краін з пераходнай эканомікай».

Дык куды мы пераходзім ужо трэці дзясятак гадоў пад кіраўніцтвам дамарослага Майсея? Дзе тая Зямля Абяцаная, ці мы яе ўжо дасягнулі, так і не пераключыўшыся з каманды «На месцы, крокам руш!» на каманду «Бягом!»?

Ёсць такі раздзел у сучаснай паліталогіі — транзіталогія, які вывучае пераход ад аўтарытарызму да дэмакратыі. Ад сябе дадам, да дэмакратыі «ў заходняй упакоўцы», бо іншыя тыпы дэмакратыі ў транзіталогіі не разглядаюцца. Зразумела, гэта не адмяняе магчымасцяў асобным прасунутым мыслярам распрацоўваць канцэпцыі дэмакратый у нацыянальных упакоўках.

Асноўнае адрозненне беларускай дэмакратыі ад заходняй, на думку вышэйзгаданых аўтараў, палягае ў тым, што беларуская дэмакратыя з'яўляецца «сапраўднай», г. зн. выказвае і абараняе інтарэсы большасці, у той час «у канстытуцыйным праве ЗША пад прынцыпам дэмакратыі разумеецца «ахова правоў меншасці».

## Дэмакратыя «падступных рабоў»

Якая з дэмакратый з'яўляецца сапраўднай — пытанне асобнае, але сутнасць адрознення адлюстравана правільна. У сувязі з гэтым нагадаю чытачам, што ў аснову функцыянавання КПСС і савецкай дзяржавы быў пакладзены прынцып дэмакратычнага цэнтралізму, адным з базавых элементаў якога з'яўлялася абавязковае падпарадкаванне меншасці большасці. Выдатны прынцып, вось толькі чамусьці ён не змог перашкодзіць ні фарміраванню культу асобы Сталіна, ні валюнтарызму Хрушчова...

Для разумення парадоксу, прывяду выказванне, якое прыпісваецца Вальтэру: «Я не падзяляю вашых перакананняў, але гатовы памерці за ваша права іх выказваць». Такое вось уяўленне пра дэмакратыю. Глыбока чужое нам уяўленне. Яно, між іншым, не адкідае неабходнасці абавязковага падпарадкавання меншасці рашэнням, прынятым большасцю, але захоўвае пры гэтым за меншасцю права працягваць адстойваць свае перакананні.

Пры Сталіне тых, хто адмаўляўся публічна дэклараваць сваю згоду з большасцю (з лініяй партыі і ўраду), — расстрэльвалі, пры Хрушчове — адпраўлялі ў дамы вар'ятаў. У сучаснай Беларусі да такіх крайнасцяў справа не даходзіць, але доступ да сацыяльных ліфтаў прадстаўнікам меншасці надзейна перакрыты. Апошняе нагляднa пацвярджаецца прафесійным складам апазіцыі. Знаходжанне пры пасадах у дзяржаўных або прыватных структурах несумяшчальнае сёння з сяброўствам у апазіцыйных партыях. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што, калі пакінуць за дужкамі 90-я гады, статуснымі фігурамі апазіцыя не папаўняецца.

Дэмакратыя ў нацыянальнай упакоўцы абапіраецца на сацыякультурны тып чалавека, які ў сацыялогіі прынята называць «чалавекам савецкім». Перш за ўсё, гэта чалавек, які адаптаваўся да рэпрэсіўнай дзяржавы, чалавек з падвойнай свядомасцю («падступны раб» у трактоўцы Лермантава).

Дэмакратыя ў нацыянальнай упакоўцы і з'яўляецца адным з інструментаў рэпрэсій. З яе дапамогай нават выбары, якія адпавядаюць усім заходнім стандартам, могуць адкрыць дарогу персаналісцкай дыктатуры. Як гэта адбываецца на практыцы, мы мелі магчымасць назіраць у 1994 годзе. І ўсё таму, што пры такім тыпе дэмакратыі пераможца атрымлівае ўсё, а лёс тых, хто прайграў, залежыць ад гістарычнага кантэксту (ад фізічнага знішчэння пры Сталіне да поўнай маргіналізацыі пры АП).

***

На думку аўтараў артыкула, «Дэмакратычны транзіт паводле лякалаў гэтай (заходняй. — С.Н.) мадэлі спараджае, як пацвярджае практыка, крызісы нацыянальнай ідэнтычнасці, размывае культурную разнастайнасць народаў, краін і рэгіёнаў».

У чарговы раз згодзен. Але якая альтэрнатыва? Як, застаючыся ў межах нацыянальнай ідэнтычнасці, угнацца за народамі, якія далі старт чацвёртай прамысловай рэвалюцыі? Пра наяўнасць такой праблемы аўтары, відаць, не падазраюць.

Арына САНДОВІЧ

**Беспрацоўе пакрысе набірае абароты. Усё больш беларусаў пагаджаюцца на малыя заробкі, каб толькі мець працу. Як выжыць, калі раптам страціў працу? Ці лёгка яе знайсці зноў, і з якога кшталту праблемамі можна сутыкнуцца? Сваім досведам мы папрасілі падзяліцца нашых суразмоўцаў, якія прайшлі праз усе пакуты, страты ў пошуку новага працоўнага месца.**




### Для даведкі

Колькасць афіцыйна зарэгістраваных у Беларусі беспрацоўных на канец студзеня 2016 года склала 47,7 тыс. чалавек, або 1,1% ад колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва. Пра гэта сведчаць звесткі Нацыянальнага статыстычнага камітэта.

Паводле незалежных экспертаў, беспрацоўе ў Беларусі складае каля 27%. Афіцыйная стытыстыка не ўлічвае незарэгістраваных беспрацоўных, а таксама так званае прыхаванае беспрацоў — тых, хто працуе няпоўны працоўны дзень ці тыдзень.

На канец студзеня 2015 года афіцыйна беспрацоўных у Беларусі было 30,7 тыс. чалавек. Павышэнне пенсійнага ўзросту толькі павялічыць нават афіцыйныя лічбы беапрацоўя. Больш таго, значна знізяцца і памеры заработнай платы.

# Не магу знайсці працу

### «Сёння запатрабаваны маладыя спецыялісты, якіх можна нагінаць, як хочаш»

Жанчына просіць не называць свайго сапраўднага імя, бо не хоча, каб былыя калегі даведаліся, у якой няпростай сітуацыі яна апынулася. Ужо працяглы час журналістка Алена не можа знайсці працу:

— Па шчырасці, не думала, што з маім досведам і прафесійнымі дасягненнямі будзе так цяжка зноў уладкавацца на працу. Я прапрацавала 18 гадоў у вузкагаліновым выданні, атрымала шмат прэстыжных узнагарод, але праз змены ў кіраўніцтве і нязгоду з іх новай палітыкай была вымушана сысці. Аб чым не шкадую: сапраўдны прафесіянал мусіць мець сваю незалежную пазіцыю. Як да эксперта да мяне і сёння звяртаюцца многія СМІ, прычым не толькі беларускія, але і замежныя.

Алена даўно размясціла свае рэзюме на розных рэсурсах па пошуку працы, але на сумоўе яе запрашаюць вельмі рэдка.

— Мабыць, гэта з-за ўзросту: мне ўжо 40. Балюча прызнаваць, але прафесіяналы зараз мала каму цікавы. Сёння запатрабаваны маладыя спецыялісты, якія не ведаюць сваіх правоў. Іх можна нагінаць, як хочаш, іператасоўваць, як будзе заўгодна кіраўніцтву... Новыя вакансіі для журналістаў з'яўляюцца нячаста, а прэтэндуе на іх вялікая колькасць чалавек. Не гаворачы ўжо аб тым, што сёння ім у асноўным прапануюць толькі 4–5 мільёнаў. Улічваючы тыя эканамічныя цяжкасці, у якіх я апынулася праз страту працы, я б пагадзілася працаваць нават і за гэтыя невялікія грошы.

Алена імкнецца быць аптымістам, хоць з кожным днём гэта становіцца ўсё больш складана.

— Страта працы — карысны досвед, як выжыць у экстрэмальных умовах і разумна размяркоўваць свой бюджэт. Я па натуры — працаголік, таму заўсёды мела добрыя заробкі. Першыя месяцы пасля страты працы было вельмі цяжка прызвычаіцца да маленькіх і непастаянных заробкаў. Добра, што хоць маці з братам крыху падтрымлівалі і перадавалі з вёскі прадукты. Але затое зараз я навучылася ашчадна размяркоўваць свой невялічкі бюджэт, які часам не дасягае нават 2 мільёнаў. Даўно ўжо не набываю сабе новых рэчаў. Уважліва сачу ў крамах за спецыяльнымі акцыямі і імкнуся набываць усё неабходнае на зніжках. Самыя вялікія выдаткі ў мяне ідуць толькі на камунальныя паслугі.

Алена прызнаецца: гэта яшчэ добра, што яна жыве адна, бо калі б у яе былі дзеці, яна не ведае, як бы пракарміла іх.

### «Страта працы прымусіла задумацца над стварэннем сваёй справы»

Алеся Жорнікава, экс-дырэктарка студыі спецыяльных праектаў кінастудыі «Беларусьфільм».

— Я страціла працу напрыканцы студзеня. У першыя дні, безумоўна, было цяжка, бо, у адрозненне ад іншых, у мяне досыць вузкая спецыялізацыя.



Праз гэта вельмі не проста знайсці сабе новую працу. Але менавіта страта яе прымусіла мяне пераасэнсаваць лад жыцця, падыход да кар'еры. Усё гэта падштурхнула да думкі, што трэба стварыць сваю справу, каб ні ад каго не залежыць. Зараз я стала больш актыўна шукаць новыя магчымасці для рэалізацыі сваёй задумы. Актыўна манітору сярод сваіх сяброў і знаёмых: раптам хтосьці зможа дапамагчы. Розніца ў тым, што я не шукаю працу, а імкнуся стварыць яе сама. Пакуль жа мне давялося перагледзець свой бюджэт і адмовіцца на бліжэйшы час ад падарожжаў і вандровак, бо раней, калі я адпачывала, то выбірала дарагія і якасныя варыянты.

### «Я зарабляла больш за 1,5 тысячы долараў, а прыйшлося згаджацца на 4 мільёны рублёў»

У Насты, якая таксама не хоча называць сваё сапраўднае прозвішча, працоўны досвед зусім не вялікі. Ёй толькі 19 гадоў, і ў дзяўчыны няма нават сярэдняй адукацыі.

— Я скончыла толькі 9 класаў. У 18 гадоў у пошуках працы пераехала ў Маскву, дзе з лёгкасцю ўладкавалася ў сетку рэстаранаў хуткага харчавання. Пачынала з заробкаў у 60–70 тысяч у месяц, а потым яны значна павысіліся. Да таго ж, я жыла ў інтэрнаце, таму не трэба было плаціць шмат за жыллё. Праз год па сямейных абставінах мне давялося вярнуцца дадому ў Мінск. Працу шукала некалькі месяцаў: мне паўсюль адмаўлялі, бо я скончыла толькі 9 класаў, і ў мяне не было вопыту. Ён быў, але ў Маскве. Там я зарабляла больш за 1,5 тысячы долараў, а зараз давялося згаджацца на 4 мільёны рублёў, бо трэба на нешта жыць. Нядаўна я распачала працу касірам у адным з мінскіх фаст-фудаў. Працую па 12 гадзін два дні праз два. Я вельмі шчаслівая, што кіраўніцтва мне паверыла і ўзяло на працу. Калі будзе больш наведвальнікаў, то заробкі могуць дасягнуць і 6 мільёнаў. Улічваючы мой вопыт, я паралельна там жа вучуся на адміністратара. Здымаю пакой за 80 долараў на месяц. Эканомлю на ўсім: кафэ і клубы не наведваю, з адзення — толькі самае неабходнае. Ежу набываю самую танную ці на зніжках. І з улікам, каб яе надоўга хапіла, — тую ж бульбу, крупы, з якіх можна шмат чаго прыгатаваць. Як толькі больш-менш стану на ногі, пайду вучыцца: без адукацыі нават на самыя шараговыя пасады цяжка разлічваць.

### «Мой заробак быў такі маленькі, што, калі звольніўся, гэтага нават не адчуў»

Яўген Віктараў працаваў у сістэме бяспекі. У пошуках больш заробкаў сышоў з мінулай працы сам.



— З мінулай працы ў сістэме бяспекі (сігналізацыі, відэаназіранне і г. д.) я сышоў сам: паўтары стаўкі давалі толькі 4,2 мільёна рублёў. Мой заробак быў такі маленькі, што, калі звольніўся, гэтага нават не адчуў. Праўда, пра розныя забавы, якія я раней усё ж мог сабе дазволіць, — кубачак кавы ў кавярні ці кіно, давялося забыць. Амаль паўгода шукаў новую працу. Але добрыя прапановы сустракаў рэдка: працадаўцы сёння прад'яўляюць да кандыдатаў шмат патрабаванняў, пры гэтым абяцаючы невялічкія заробкі. Чапляўся за любую магчымасць крыху падзарабіць. Літаральна пару тыдняў таму нарэшце працаўладкаваўся ў фірму, якая займаецца забеспячэннем доступу да інтэрнэту, тэлефоннай сувязі і г. д. Заробак неблагі па сённяшніх няпростых часах — 6 мільёнаў.

### «Давялося адмовіцца ад звычкі набываць сабе ўсё, што падабаецца»

Дарэчы, без працы сёння апынуліся і многія фрылансеры, як, напрыклад, дызайнер Сяргей Н.

— Крызіс дае пра сябе ведаць. Колькасць замоваў апошнім часам значна скарацілася. Напрыклад, у маёй сферы — на 60%. Не гаворачы ўжо аб тым, што за выкананую працу сталі часцей несвоечасова разлічвацца. Даводзіцца чакаць свае заробленыя грошы па 2–3 месяцы. Што, безумоўна, адбіваецца на маім бюджэце. Апошнім часам давялося адмовіцца ад паходаў у кафэ, ад дарагога брэндавага адзення і звычкі набываць сабе ўсё, што падабаецца. Каб палепшыць сітуацыю, стаў больш актыўна шукаць новыя рынкі, дзе могуць быць запатрабаваны мае паслугі, і ўдасканальваю ўласныя веды. Падатак на дармаедства мяне не моцна пужае, бо зарабляю пакуль дастаткова, каб быць здольным яго аплаціць.

**Фота з асабістага архіву герояў**

# Трыццаць гадоў пасля

## Сонечная сям'я з Германіі

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Прапануем вашай увазе чарговы ўрывак з кнігі Аляксандра Тамковіча «Філасофія дабрыні. Ад катастрофы — да саду надзеі». Кнігі пра людзей, якія сваёй чуласцю да чужога болю дапамаглі выратаваць генафонд беларускай нацыі. Гэтая кніга, паводле словаў самога Аляксандра Тамковіча, «пра філасофію дабрыні».**



Урсула і Герт Штоернагель

### Ушы і Герт

Калі на ўваходзе ў дом мяне сустрэла саламянае сонца, я адразу падумаў, што гэта вельмі сімвалічна, бо Ірына Грушавая не раз называла сям'ю Урсулы і Герта Штоернагель «сонечнай». Аказалася, сонейка ім падаравала дзяўчынка з чарнобыльскай зоны, якая раней ездзіла на аздараўленне ў Люнебург. І калі Урсула Штоернагель наведвала Беларусь, тая дзяўчынка спецыяльна прывезла на сустрэчу з ёй саламянае сонца — у знак удзячнасці ад сваіх бацькоў.

Праз дзве гадзіны размовы з Урсулай і Гертам Штоернагелямі я пераканаўся, што лепшай метафары для гэтай сям'і знайсці цяжка. Дастаткова паглядзець на іх агульныя фота.

Урсула (Ушы, як яе называюць сябры і знаёмыя) Штоернагель нарадзілася недалёка ад Гановера, у сям'і, дзе было пяцёра дзяцей.

Яе бацька быў эмацыйным, імпульсіўным чалавекам, а маці мела «матэматычны склад розуму», то бок, ва ўсім была надзвычай дакладная. Бацька служыў суперынтэндантам евангелічнай царквы. Сваім дзецям ён вельмі рана дапамог зразумець, што вера і жыццё — адно і тое ж.

Ён быў даволі вясёлым чалавекам, але вайна ўнесла сур'ёзныя карэктывы ў ягоны характар.

У дзень яе пачатку бацьку Ушы вельмі моцна параніла ў Брэсце. Тое, што жыццё параненага выратаваў звычайны беларускі селянін, які данёс яго да вайсковага шпіталя, моцна парушыла ў ягоных вачах міф «варожага народа». Аказалася, людзі па розныя бакі мяжы былі не такімі ўжо далёкімі адзін ад аднаго, як гэта сцвярджала афіцыйная прапаганда.

Так што цяпер сваёй дабрынёй Ушы Штоернагель у нейкім сэнсе дзячыць за тое, што адбылося 22 чэрвеня 1941 года.

Брэсцкім лазарэтам вайна для яе бацькі скончылася. Раненне было настолькі сур'ёзным, што мужчыну камісавалі.

Муж Ушы Герт усё сваё жыццё (да выхаду на пенсію) працаваў пастарам, і ў справах парафіі Ушы яму заўжды дапамагала.

Па жыцці яна вельмі музычны чалавек. Адпаведная адукацыя дазваляла займацца ўсім, што датычыцца музыкі: рыхтаваць канфірмантаў, кіраваць харамі дарослых, моладзі, дзяцей, вучыць граць на розных музычных інструментах.

Дарэчы, у доме сям'і Штоернагель таксама ўвесь час гучалі казачныя гукі музыкі, якія зачароўвалі іх дзяцей з першых хвілін жыцця.

Ушы і Герт выгадавалі шасцёра дзяцей. Дарэчы, Герт заўсёды прымаў даволі актыўны ўдзел у выхаванні, перш за ўсё ўласным прыкладам.

Нарадзіўся Герт Штоернагель на землях, якія цяпер уваходзяць у склад Польшчы, а тады былі германскімі. Пасля вайны яго бацькі пераехалі ў дом, дзе жывуць цяпер, і дзе ў тыя часы жылі бабуля і дзядуля Герта. Потым быў горад Вольсбург, дзе Герт пачаў вывучаць тэалогію.

Паводле яго глыбокага пераканання, Богу было заўгодна, каб на жыццёвым шляху яны сустрэліся з Ушы. Гэта было наканавана нябёсамі.

Як і тое, што Герт стаў пастарам.

### Дзецям Чарнобыля

У 1991 годзе ў Дортмундзе праходзіў чарговы евангелічны фестываль «Царкоўны дзень». Раней на ўсіх падобных святах Ушы нязменна хадзіла ў павільён, прысвечаны Савецкаму Саюзу. Так было і гэтым разам. Кампанію ёй склалі яшчэ 15 жанчын з парафіяльнага хору.

Менавіта там Ушы Штоернагель пачула жанчыну, якая расказвала пра чарнобыльскія пакуты Беларусі і дзейнасць фонду «Дзецям Чарнобыля». Гэта была Ірына Грушавая.

Цікава, што спачатку Ірыне Львоўне выдзелілі на выступ трыццаць хвілін, потым сказалі — дваццаць, а непасрэдна перад трыбунай тыя ператварыліся ў шэсць. Можна толькі ўявіць, якім эмацыйна-пераканаўчым быў выступ Грушавой. За кароткі час яна здолела літаральна захапіць увагу чатырох тысяч чалавек і, калі меркаваць па ўхваленні Васіля Быкава (пісьменнік быў у зале), атрымалася ў яе вельмі добра.

Дарэчы, не толькі яго ўразіў гэты выступ. Ушы Штоернагель была літаральна ўзрушаная.

— У адным шэрагу са мной сядзелі жанчыны, якія разам з Грушавой прыехалі ў Германію. Можа быць, менавіта таму яе кранальны выступ і стаў іскрай, якая адразу запаліла ў сэрцы жаданне дапамагаць, — распавядае Ушы Штоернагель. — Калі твае шасцёра дзяцей маюць усё, і ты жывеш у прыўкрасных умовах у Германіі, хочацца падзяліцца часткай таго добрага, што ёсць у цябе, і дапамагчы іншым. Альбо паспрабаваць хаця б знайсці шляхі да тых, у каго гэтага няма.

Усе, з кім я прыехала ў Дортмунд, думалі гэтаксама і таксама былі моцна ўражаныя.



Адразу пасля выступу мы знайшлі Ірыну і спыталі: што можам (і як) зрабіць? Там жа дамовіліся, што першая група беларускіх дзяцей (33 чалавекі) прыедзе ў наш горад ужо ў кастрычніку 1991 года.

Радавала, што ў залі прысутнічала Эва Бальке, чый адпаведны досвед быў агульнавядомы (у нас пакуль яго не было), што дазваляла ў любы час атрымаць ад яе кансультацыю альбо каштоўную параду.

Ніколі не думала, што з той маленькай дзіцячай групкі пачнецца справа, якая будзе працягвацца па наш дзень…

Напачатку я насцярожвалася ад думкі, як гэта ўсё будуць успрымаць уласныя дзеці, як яны будуць ставіцца да таго, што іх маці не менш, чым імі, займаецца іншымі дзецьмі?

І памятаю, як мне было прыемна ўбачыць, што яны адразу пачалі ўспрымаць гэта ў якасці агульнасямейнай справы, свайго новага абавязку.

Мае дзеці пасябравалі з многімі чарнобыльскімі дзецьмі, з некаторымі перапісваюцца па наш дзень, і нават крыху размаўляюць на вашай мове.

### Ініцыятывы Люнебурга

Тая іскра запаліла сэрца не толькі Ушы. Не менш быў узрушаны яе муж, які ўбачыў у тым, што адбылося, Божую падзяку за тое, што сваіх шасцярых дзяцей яны выгадавалі лагоднымі і здаровымі.

Разам па жыцці Штоернагелі ідуць ужо больш за пяцьдзясят гадоў. І палову з іх Ушы каардынуе ўсю чарнобыльскую працу ініцыятывы Люнебурга, а Герт актыўна ёй дапамагае.

Зараз Герт ужо на пенсіі, але аўтарытэт яго з часоў пастарства не стаў меншым.

Ініцыятыва пад кіраўніцтвам Ушы Штоернагель займаецца пераважна аздараўленнем беларускіх дзяцей. Дакладней (на дадзены момант), дзяцей тых чарнобыльскіх дзяцей, якія пачалі ездзіць сюды яшчэ ад пачатку дзевяностых гадоў. За час работы (амаль чвэрць стагоддзя) у Люнебургу пабывала каля паўтары тысячы беларускіх дзетак.

Нямецкі горад Люнебург месціцца ў Ніжняй Саксоніі, у 50 кіламетрах ад Гамбурга. Жыве там больш за семдзясят тысяч чалавек.

Натуральна, за час супрацоўніцтва з Беларуссю адбылося шмат чаго цікавага, але пра некалькі выпадкаў варта расказаць асобна.

Пры евангелічным прыходзе, дзе пастарам служыў Герт Штоернагель, шмат гадоў актыўна дзейнічае хор, пра што ўжо пісалася вышэй. У самым пачатку супрацоўніцтва з Беларуссю было вырашана падрыхтаваць вялікую канцэртную праграму, а на атрыманыя ў якасці ахвяраванняў грошы арганізаваць у Мінску сустрэчу з чарнобыльскім дзецьмі і іх бацькамі.

То бок, ахвяраваныя сродкі пайшлі на тое, каб аплаціць даволі вялікай колькасці «чарнобыльцаў» дарогу да Мінску, пражыванне ў гатэлі «Турыст», ежу, экскурсійную праграму і г.д.

Дзякуючы якаснай арганізацыйнай падтрымцы фонду «Дзецям Чарнобыля» сустрэча адбылася. Усю ноч гатэль нагадваў парушаны мурашнік, бо ў розных пакоях чарнобыльскія дзеці аб'ядналі сваіх бацькоў з іх нямецкімі візаві, а на наступны дзень знаёмства было працягнутае ў актавай зале вялікім агульным канцэртам.

Больш за тое, потым адбылося цалкам неверагоднае. Хору нямецкай Евангелічнай царквы дазволілі праспяваць у галоўнай праваслаўнай царкве Мінска.

Збянтэжаныя вернікі нават пыталіся ў бацюшкі: «Гэта спяваюць нямецкія праваслаўныя?», а ён адказваў: «Гэта спяваюць хрысціяне!»

Праз некаторы час немцы пачалі самі ездзіць у тыя раёны, адкуль прымалі беларускіх дзяцей. У прыватнасці, у пасёлак Камарын, вёскі Верхняя і Ніжняя Жары Брагінскага раёна Гомельскай вобласці, ад якіх да месца аварыі на ЧАЭС усяго некалькі дзясяткаў кіламетраў.

Менавіта ў тых мясцінах з Ушы Штоернагель сустрэла дзяўчынку Анжэлу, якая акрамя таго, што пакутавала ад радыяцыі, яшчэ хварэла на эпілепсію. Лекаў, якія маглі б ёй дапамагчы, не было ні ў Беларусі, ні ў суседняй Украіне. Бацькі Анжэлы звярнуліся па дапамогу ў Германію.

Ушы набыла лекі. Самастойна на рэйсавым аўтобусе прыехала ў Гомель, а потым — у радыяцыйную вёску, дзе жыла хворая. Лекі былі перададзеныя, прыпадкі ў дзяўчынкі скончыліся. Ушы прыязджала з лекамі дзевяць (!!!) разоў запар, і хвароба адступіла.

Сёння Анжэле ўжо трыццаць гадоў. Яна выхоўвае сваіх дзяцей, а яе старэйшы сын ужо пабываў у Люнебургу.

### Не патрэбна і шкодна?

У сувязі з тым, што бацька Анжэлы быў адным з буйных мясцовых начальнікаў, тут прыйдзецца да месца наступны расказ.

Не буду гадаць, хто канкрэтна гэта прыдумаў, хаця ўсім зразумелы адрас падобных правакацый. Скажу толькі, што ў 1992–1993 гадах у замежнай прэсе з'явіліся публікацыі наконт таго, што за мяжу едуць толькі дзеці «партыйных бонзаў», а калі і ёсць выключэнні, то ад гэткіх паездак ім няма карысці, бо «культурны шок» вельмі шкодны для дзіцячай псіхікі. Маўляў, нельга вывозіць дзяцей за межы Беларусі.

Такога кшталту артыкулы ў мінскі фонд «Дзецям Чарнобыля» пачалі дасылаць партнёры з Галандыі, Італіі, Германіі і Канады. Напісаныя яны былі рознымі аўтарамі і называліся,

# Чарнобыльскай катастрофы

натуральна, па-рознаму, аднак сутнасць была адна і тая ж.

Стала зразумела, што нехта імкнуўся перашкодзіць справе, што пачалася без дазволу ўладаў.

Можна толькі ўявіць, колькі сілаў і нерваў спатрэбілася, каб супрацьстаяць інсінуацыям і плёткам, — але фонду «Дзецям Чарнобыля» гэта ўдалося.

Ініцыятыва ў Люнебургу — адна з тых, хто паверыў сваёй практыцы, а не «ананімным меркаванням», і працягнуў супрацоўнічаць з фондам.

Праца гэтая наладжаная з нямецкай скрупулёзнасцю і педантычнасцю.

Спачатку Ушы Штоернагель шукае нямецкія сем'і, якія маглі б прымаць беларускіх дзяцей. У горадзе гэта лічыцца гонарам, таму далёка не ўсім гэты гонар выпадае. Падобнае давяраюць толькі тым, у кім упэўненыя на сто адсоткаў.

Вядомы выпадак, калі бургамістр жадаў дапамагчы і па сваёй ініцыятыве надрукаваў у газеце аб'яву пра тое, што шукае яшчэ дзве сям'і. Жадаючыя знайшліся амаль імгненна, але большасці сябраў лёненбургскай ініцыятывы яны прыйшліся не даспадобы — і ад іх паслуг адмовіліся.



Марына Цімафеева да аперацыі



Марына Цімафеева пасля аперацыі

Сур'ёзнасць, з якой немцы штогод рыхтуюцца да прыезду беларускіх дзяцей, папросту ўражвае. Кожная нямецкая сям'я, што прымае гасцей, павінна ведаць рацыён, хваробы, алергіі дзіцяці і г.д.

Усім раздаюцца самаробныя «размоўнікі», дзе напісаныя асноўныя фразы з перакладам з нямецкай мовы на нашу найбольш ужываемых сказаў і адпаведнай транскрыпцыяй.

Потым складаецца агульная праграма, бо, акрамя таго, што дзеці жывуць у нямецкіх сем'ях, яны кожны дзень збіраюцца разам, а два тыдні і ўвогуле адпачываюць на Паўночным моры.

Акрамя гэтага, усіх дзяцей абавязкова аглядае стаматолаг, а таксама ўрач, які замярае паказчыкі шчытападобнай залозы.

На жаль, апошнім часам назіраецца відавочны рост радыяцыйнай забруджанасці. Сярэднія паказчыкі аналізаў значна горшыя, чым былі раней.

Часткова гэта тлумачыцца генетычнай спадчыннасцю, але асноўную прычыну шмат хто бачыць у радыяцыйным пыле, які ўзнікае ад шматлікіх пажараў у зоне.

Беларуская прэса мінулым летам пра гэта нічога не пісала, акрамя таго, што гарыць толькі яе ўкраінская частка. На самай справе, гэта было цынічнай хлуснёй, бо беларуская «зона» гарэла не менш, толькі расказваць пра гэта строга забаранялася.

Словам, усё, як 30 гадоў таму, 26 красавіка 1986 года...

### Яшчэ адзін цуд

Як ужо было сказана вышэй, першая група беларускіх дзяцей прыехала ў Люнебург у 1991 годзе. У складзе яе была Ірына Цімафеева. Больш за тое, яна жыла менавіта ў сям'і Ушы і Герта Штоернагель.

Некалькі гадоў пра яе нічога не было чуваць, аднак потым Ірына Цімафеева звярнулася па дапамогу да гэтай сям'і. Патэлефанавала і расказала, што яе дачка Марына з пухлінай мозгу (рак) трапіла ў Бараўляны. Урач сказаў, што тымі сродкамі, якія ў іх ёсць, не магчыма ёй дапамагчы. Тэрмінова былі патрэбныя лекі для хіміятэрапіі, якія можна набыць толькі на Захадзе.

І Ушы Штоернагель іх знайшла. І знаходзіла потым шмат разоў. Больш за тое, урачы неўзабаве дазволілі Марыне хадзіць у школу.

...На жаль, такія цуды адбываюцца далёка не заўсёды. Асабліва агідна ад таго, што гэтым дзецям можна было дапамагчы, каб мытнікі не канфіскоўвалі лекі наўпрост на мяжы. А яшчэ, каб у школе не вучылі, што Чарнобыль ужо скончыўся і стаў гісторыяй.

# Чарнобыль у асобах

**Леанід Аляксандравіч Казлоў працаваў на ЧАЭС звычайным шафёрам ад моманту, калі капалі катлаван пад пабудову станцыі, да апошняга ўздыху рэактара. Ён дапамагаў перасяленцам вывозіць рэчы, вазіў начальнікаў і бачыў, як будавалі супрацьфільтрацыйную сцяну, каб радыеактыўная вада не патрапіла ў Прыпяць. Леанід Аляксандравіч родам з вёскі Чыкалавічы, але ўжо 24 гады як пакінуў сваю малую радзіму.**



Зараз Леанід жыве разам з жонкай на пенсіі. Іх хата — у гарадскім паселішчы Камарын, што ў Брагінскім раёне.

Як сам пра сябе расказвае, нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Чыкалавічы, працаваў у Растове-на-Доне на будоўлі, але вярнуўся дамоў. У 1972 годзе праз рэчку ад яго роднай вёсцы, на адлегласці 25 кіламетраў, пачалі будаваць Чарнобыльскую атамную электрастанцыю.

Так ён і яго калегі з нуля, ад катлавана і цокалю, пачалі будаваць атамную станцыю, працуючы 5 дзён на тыдзень.

### Мёртвы горад

Жонка таксама ўладкавалася на ЧАЭС. Ім пашчасціла атрымаць жыллё ў горадзе Прыпяць. Бывалі там, але часцей прыязджалі на вёску да бацькоў.

Аднойчы на выхадных Леанід Аляксандравіч вярнуўся ў вёску.

«Пачалі мы з бацькам жонкі разбіраць стары сарай, рэзаць бензапілой сцены. А ён мне кажа: «Чуў, ноччу на атамнай станцыі быў выбух», — прыгадвае ён. — І рабочыя, якія працавалі на станцыі, паехалі туды. Але я ж шафёр з іншай фірмы. Паехаў толькі ў панядзелак. Прыязджаю, а на прыпынку цягніка няма людзей! «Штосьці мала людзей едзе на працу», — падумалася мне. Рухаемся далей, а кандуктар абвяшчае: «Гэты цягнік едзе на Прыпяць у апошні раз. Часова ніхто сюды не зможа прыехаць».

На вакзале ў Прыпяці мітусня, людзі з дзецьмі, тыя плачуць. Але той Прыпяці ўжо няма — горад мёртвы».

Леаніда Аляксандравіча папярэдзілі: яго кватэра можа быць апячатаная. Але ў яго атрымалася забраць дакументы і цёплую вопратку. Пасля прыехаў назад у вёску:

А назаўтра трэба было на працу. І ён паехаў. На працы прапанавалі займацца ліквідацыяй і пасадзілі за стырно 375-га «Урала» — спецмашыны з будкай. Шафёру далі пуцёўку, і ён адправіўся ў Прыпяць дапамагаць былым жыхарам вывозіць рэчы.

А горад ужо абнесены калючым дротам. Гаспадыня, што едзе ў машыне, кажа на КПП свой адрас, ёй даюць дазвол праязджаць.

«А калі я ўжо заехаў, кажуць: «Можа, будзе што са спіртнога — бяры, нам трэба». Кажу: «Без праблем». Прыязджаем назад, пытаюць: «Е?» — «Е!» Далі ім і настойкі, і самагонкі. Гэтыя ж людзі потым правяраюць у цябе рэчы ў машыне. Калі ты ім не даў гарэлкі (грошы не бралі) — дык добрую рэч дазіметрам праверацъ і скажуць выкідваць, — распавядае суразмоўца. — І разумееце, потым еду я на Кіеў іншым шляхам, не праз Чарнобыль. Бачу ворах, думаю: што гэта? А гэта рэчы, якія людзі спрабавалі вывезці. Іх скідваюць туды. Еду на другі дзень, пытаюся: «А куды яно падзелася?» — «Як куды? Ужо ў Адэсе ці ў Растове прадаюць». Ох, і нажываліся гэныя людзі!»

На працу ездзілі не з панядзелка па пятніцу, як раней, а вахтамі па 15 дзён. Былі і іншыя асаблівасці, звязаныя з аварыяй:

«Прыязджаю на вахту і пытаюся: «А чаму напарніка няма?» — «Напарнік памёр. Прыйшоў дадому, памыўся, сеў на канапу. Кажа: «Мне штосьці так пагана!» Лёг — і не ўстаў», — узгадвае суразмоўца.

Нягледзячы на трагічныя абставіны, жыццё знешне шмат у чым не змянілася, і гэта падкупляла:

«Радыяцыя была незаўважная, ад яе не балела, — кажа мужчына. — І мы самі сябе не глядзелі. Плацілі грошы — і працаваў нават хворы на страўнік. Кажам: «Валодзя, табе ж нельга!» А ён:«Ох, Лёня, у мяне дзве дзяўчынкі, трэба падымаць». І паехаў на станцыю. Паездзіў-паездзіў з Кіева на працу — і дзяўчат пакінуў, і сам памёр».

Адбывалася падчас працы і тое, чаго цяпер пабойваюцца праціўнікі ідэі новай АЭС: цэмент не даязджаў да станцыі.

«Пачалі вазіць з Вышгарада ў Прыпяць сухі бетон, — распавядае ліквідатар. — Чым больш рэйсаў — тым больш табе плацяць. Але 115 кіламетраў трэба яшчэ праехаць! Дык некаторыя ехалі ў лес, высыпалі гэты бетон, ехалі назад і атрымоўвалі паперку, што загрузіліся. Не даязджаў той бетон. Тады даішнікі ўзялі верталёт і пачалі назіраць за рухам гэтых бетонамяшалак».



Звольнілі некалькі чалавек. Леанід Аляксандравіч вырашыў адмовіцца ад такой працы сам.

### Кандыдаты на смерць

З працы на станцыі мужчына запомніў абвалоўку канала, што адыходзіў ад Прыпяці да станцыі, вада якога ішла ў астуджальную сажалку. Потым капалі глыбокую канаву, у якую засыпалі гліну і белы раствор, каб забруджаная вада не пайшла ў Прыпяць. Менавіта гаворка ідзе пра супрацьфільтрацыйную сцяну. Людзі на працах, відавочна, пачуваліся расслаблена:

«Горача. Хлопцы сядзяць, у ванне рэчыва гэтае белае муцяць, голыя, — расказвае Леанід Аляксандравіч. — Ідзе нейкі таварыш з радыялагічнага цэнтра ў Ленінградзе. Кажа: «Яны ўжо гатовыя кандыдаты на смерць». Многа такога было. Самі сябе гробілі праз грошы, праз невыкананне тэхнікі бяспекі».

Вынаходлівы савецкі розум не мог звыкнуцца, што столькі дабра прападае праз радыяцыю, якую не бачна. Прымяніць дома спрабавалі многае, у прыватнасці графіт.

«Калі будавалі атамны блок, па дыяметры яго абкладалі графітам, з выгляду — накшталт шлакаблокаў. Пасля выбуху графіт разляцеўся. А ў масквіча выціскны падшыпнік з графіту, дыяметрам як скрынка з-пад згушчонкі. Гэта ж дэфіцыт! Думаю, я прынясу са станцыі ды зраблюся фермерам! — усміхаецца Леанід Казлоў. — Знайшоў адзін ды паклаў у кішэню. А трэба ісці праз вароты. Звініць! Мне кажуць: «Ты насычаны радыяцыяй». Адказваю, што пайду мяняць вопратку. Пахадзіў, выкінуў графіт з кішэні, прыходжу — прапусцілі».

Паступова зразумелі: ад рэчаў вялікі фон, і лепш іх не прыносіць.

Пасля аварыі людзі вучыліся жыць, але не ўсе выжывалі. З часам заўважылі, што нельга класціся на зямлю — будзе забруджаная вопратка, а ў горле з'явіцца горыч. Даведаліся, што часам лепш ехаць з зачыненай форткай, каб у салон не трапляў пыл. Ці атрымоўвалася абараніцца ад радыяцыі, для сябе мужчына так і не вызначыў:

«Але, дзякуй Богу, перажыў і дажыў да сёння, — радуецца ён. — Не хацелася б, каб такое паўтарылася. Будуецца атамная станцыя пад Мінскам, гляджу — не дай Бог. Па тэлевізары кажуць, што вельмі-вельмі бяспечная, і ўсё пад кантролем. Там таксама быў кантроль».

**Паводле матэрыялу, прадстаўленага Зялёнаму парталу Беларускім архівам вуснай гісторыі**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІСПАНІЯ. Баскі салідарныя з Карабахам

Падавалася б, дзе Краіна Баскаў, а дзе Каўказ. Тым не менш парламент Краіны Баскаў (аўтаномія ў складзе Іспаніі) прыняў заяву з нагоды апошніх падзей у Нагорным Карабаху, асудзіўшы спробы Азербайджана вырашыць канфлікт ваенным шляхам. У дакуменце, у прыватнасці, гаворыцца: «2 красавіка 2016 года Азербайджан у аднабаковым парадку здзейсніў беспрэцэдэнтны напад па ўсёй працягласці мяжы з Нагорным Карабахам — тэрыторыяй, на 95% заселенай этнічнымі армянамі». Заява была прынята аднагалосна ўсімі прадстаўленымі ў парламенце палітычнымі сіламі. На думку каментатараў, інтарэс да Карабаху ўскосна сведчыць пра кансенсус сярод баскскіх партый наконт неабходнасці пашырэння суверэнітэту краю. Праўда, агульнай думкі наконт таго, як павінен выглядаць фармат больш незалежнай ад Мадрыду Краіны Баскаў, няма. У тым ліку і ў сувязі з тым, што сацыёлагі фіксуюць рэкордна нізкую колькасць прыхільнікаў незалежнасці. Зараз толькі 19% баскаў выступаюць за выхад рэгіёна са складу Іспаніі, хаця яшчэ некалькі гадоў таму такіх было каля 33%. Расчараванне незалежніцкімі лозунгамі часткова тлумачаць працэсамі ў Каталоніі, якая з 2012 года дэкларуе намер абвясціць незалежнасць, аднак ніяк не рашаецца на канчатковы крок.

**Паводле армянскай і іспанскай прэсы**

### ВАТЫКАН. Папе прапанавалі коку

Прэзідэнт Балівіі Эва Маралес наведаў Рым, каб, сярод іншых спраў, сустрэцца з Папам Рымскім і закідаць яго незвычайнымі падарункамі. Маралес прэзентаваў тры кнігі, што распавядаюць пра розныя пазітыўныя эфекты, якія аказвае на арганізм чалавека ўжыванне кокі. Дарэчы, сярод кніжак, якія Маралес падараваў пантыфіку, — «Кока супраць атлусцення». Уручыўшы кнігі, балівійскі лідар заклікаў пачаць ужываць коку, бо, як кажа Маралес, ён на сваім прыкладзе пераканаўся, што гэта «добра». У нечым такога кроку чакалі: улада Балівіі даўно праводзіць палітыку папулярызацыі кокі, якая аказвае танізуючае і мясцовае анестэзіюючае ўздзеянне і можа быць платформай для розных лекаў. Праўда, дасюль Маралесу не ўдалося пераканаць сусветную супольнасць у тым, што кока — бяспечная культура. З іншага боку, падарунак выглядае дзіўным — якраз 1 красавіка балівійскі Касцёл заявіў, што наркамафія ў краіне супрацоўнічае з дзяржавай. Уручаючы кнігі, Маралес таксама папрасіў Ватыкан утрымаць балівійскіх святароў ад умяшання ў палітыку.

**Паводле іспанскай прэсы**

### РАСІЯ. Генсекам ААН стане чалавек Пуціна?

Брытанская прэса пачала кампанію супраць Ірыны Бокавай, якая лічыцца галоўным фаварытам на пасаду генсека ААН. Так, на думку выдання «Daily Mail», Ірына Бокава, якая цяпер займае пасаду гендырэктара ЮНЭСКА, можа нават з'яўляцца супрацоўнікам спецслужбаў Расіі, паколькі вучылася ў Маскоўскім інстытуце міжнародных адносін (МГИМО). Гэтая ўстанова ў свой час была вядомая як вярбовачная пляцоўка КДБ. Калі верыць таму ж выданню, асабістае жаданне бачыць Бокаву ў крэсле генсека ААН ужо выказаў Уладзімір Пуцін. З улікам таго, што «Daily Mail» лічыцца жоўтым СМІ, цяжка сказаць, наколькі яго пазіцыя паўплывае на перспектывы Бокавай. Паўнамоцтвы цяперашняга генеральнага сакратара ААН Пан Гі Муна закончацца напачатку 2017 года. На гэтую пасаду цяпер прэтэндуюць восем чалавек. Па статуце арганізацыі, вырашальнае слова ў выбарах генсека маюць пяць пастаянных членаў Савета бяспекі ААН.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ЛАЦІНСКАЯ АМЕРЫКА. Уцекачы правакуюць вайну

Гістарычны візіт Барака Абамы на Кубу не дазволіў вырашыць праблему кубінскіх мігрантаў у Панаме, што днямі зноў абвастрылася. Нагадаем, з-за паляпшэння амерыкана-кубінскіх адносін узніклі плёткі пра тое, што ЗША вось-вось скасуюць закон, паводле якога кожны кубінскі імігрант аўтаматычна атрымлівае палітычны прытулак у ЗША. Гэта прымусіла шмат каго з кубінскіх грамадзян, якія знаходзяцца ў Лацінскай Амерыцы, рушыць у бок Штатаў. Бар'ерам стала мяжа паміж Панамай і Коста-Рыкай: урад апошняй адмаўляецца пускаць мігрантаў на Поўнач. У выніку на мяжы знаходзяцца каля трох тысяч кубінцаў, якім панамскі ўрад забараняе працаваць. Куба і Нікарагуа ў сваю чаргу адмаўляюцца весці перамовы па транзіту мігрантаў. Як следства, рэгіён імкліва крыміналізуецца. Акрамя таго, тут з'явіліся кантрабандысты, якія за грошы нелегальна праводзяць уцекачоў у суседнюю Нікарагуа. Асцерагаючыся, што кубінцы паспрабуюць прарвацца праз іх тэрыторыю, нікарагуанскі ўрад абвясціў пра больш суровы рэжым на мяжы з Коста-Рыкай, што вельмі напружыла адносіны з краінай-суседкай

**Паводле іспанскай прэсы**

# Вечнае паўстанне

Алег НОВІКАЎ

**Ірландыя шырока святкуе сотую гадавіну паўстання на Вялікдзень — пралог стварэння незалежнай Ірландыі. Чаму падзея стогадовай даўніны дасюль настолькі актуальная для ірландцаў?**

У цяперашнім Дубліне літаральна ўсё будзе нагадваць пра юбілей абвяшчэння незалежнасці. Вайсковы парад, стотысячны мітынг, тэатральныя пастаноўкі, паэтычныя конкурсы, мультфільм пра паўстанне. Да гадавіны нават знялі цэлы серыял «Паўстанне», які, дарэчы, расійскія піраты ўжо скралі, пераклалі і выклалі ў сеціва.

Зноў і зноў ірландцы ўзгадваюць і абмяркоўваюць той невялікі эпізод сваёй гісторыі. Як вядома, само паўстанне, якое пачалося ў панядзелак велікоднага тыдня, 24 красавіка 1916 года, па сутнасці выявілася ў захопе групай нацыяналістаў шэрагу стратэгічных аб'ектаў у Дубліне, у тым ліку будынку галоўпаштамту, які стаў штабам. Пакуль брытанцы намагаліся зразумець, што адбываецца, інсургенты ў тым жа паштамце паспелі абвясціць незалежнасць Ірландыі. Пасля ініцыятыва перайшла да праціўніка, які з дапамогай гармат прымусіў добраахвотнікаў («Ірландскія добраахвотнікі» — арганізацыя пад кіраўніцтвам Патрыка Пірса, што аб'ядналася з Ірландскай грамадзянскай арміяй Джэймса Каналі) сысці ў глухую абарону. 29 красавіка тыя, хто выжыў пасля абстрэлаў, пагадзіліся капітуляваць, што, праўда, не выратавала іх ад смяротнага пакарання.

Аднак відавочнае фіяска сепаратыстаў у выніку нечакана праклала шлях да рэалізацыі іх мараў. Міф пра Велікоднае паўстанне натхніў нацыю, і ўжо праз два гады па выніках выбараў у брытанскі парламент нацыяналісты атрымалі большасць у ірландскай дэпутацкай квоце. Маючы мандат ад народу, дэпутаты абвясцілі пра адраджэнне ірландскай дзяржаўнасці.

Нягледзячы на тое, што ўсё апісанае вышэй адбылося сто гадоў таму, як ні парадаксальна, паўстанне на Вялікдзень не ператварылася ў старую байку, якой цікавяцца гісторыкі або турысты. Усе фіксуюць небывалы ўздым патрыятызму сярод ірландцаў, які выкліканы гэтым юбілеем.

Сакрэт гэтага патрыятызму часткова звязаны з тым, што не страціла актуальнасці пытанне Паўночнай Ірландыі. Сто гадоў таму Лондан не даў уключыць гэты край у склад Ірландскай Рэспублікі, адмовіўшы ў дадатак каталікам-ірландцам у грамадзянскіх правах. Міф пра паўстанне на Вялікдзень заўжды быў мабілізуючым фактарам для мясцовых каталікоў, каб змагацца за свае правы.

Актыўна эксплуатаваў гэтую тэму і Дублін, дзе Вялікдзень 1916 года стаў часткай дзяржаўнай ідэалогіі. Натуральна, такі падыход азначаў чорна-белы малюнак — добрыя ірландцы супраць злых брытанцаў. Магчыма таму новыя, невядомыя старонкі тых падзей, якія разбураюць трафарэт, выклікаюць жывы інтарэс.

**Відавочнае фіяска сепаратыстаў нечакана праклала шлях да рэалізацыі іх мараў. Міф пра Велікоднае паўстанне натхніў нацыю**

Напрыклад, упершыню ўзгадалі пра «жаночы фактар». Прычым, гаворка не толькі пра жанчын, якія пайшлі на барыкады. Аказваецца, у першыя дні паўстання ў Дубліне ўтварыўся нізавы рух жанчын, мужы якіх былі на франтах Першай сусветнай вайны. Жанчыны атрымлівалі за гэта спецыяльную кампенсацыю ад брытанскага ўрада і баяліся, што ў незалежнай Ірландыі гэтых ільготаў іх пазбавяць. Яны нават спрабавалі разбіраць барыкады, якія будавалі валанцёры.

Чытаючы аповеды сведкаў паўстання, становіцца відавочным, што брытанцы дапусцілі фатальную памылку. Першая рэакцыя на навіны пра паўстанне была сярод простых ірландцаў, як правіла, адмоўная. З-за паўстання былі парушаныя пастаўкі прадуктаў у горад, што абурыла бюргераў. Даходзіла да таго, што Томі (мянушка брытанскіх жаўнераў) даводзілася абараняць палонных добраахвотнікаў ад раз'юшанага натоўпу. Пераварот у настроях адбыўся пасля таго, як стала вядома, што палонных добраахвотнікаў, у парушэнне ўсіх нормаў, расстралялі. Гэта выклікала такі шок у свядомасці, што ўчорашнія прыхільнікі мірных форм барацьбы за незалежнасць пачалі заклікаць раўняцца на герояў Вялікадня 1916-га.

Аднак галоўная прычына інтарэсу да паўстання, хутчэй за ўсё, тлумачыцца тым, што, гледзячы ў мінулае, Ірландыя намагаецца знайсці маршрут у будучыню. Напрыклад, валанцёры 1916 года фігуруюць у праккламацыях грамадзянскіх актывістаў як прыклад таго, што пры любых абставінах трэба змагацца супраць несправядлівасці.

Тыя, хто выступае за роўнасць, узгадвае ролю Касцёла ў падзеях, якія мелі месца сто гадоў таму. Царква была найбольш уплывовым інстытутам у Ірландыі на той час, і менавіта яна дапамагла піяру подзвігу паўстанцаў. Ёсць думка, што гэта быў прагматычны разлік: паводле пазней прынятай Канстытуцыі Ірландыі, каталіцкая царква атрымала шмат прывілеяў, не кажучы пра тое, што ў краіне былі забароненыя скасаванні шлюбаў, і нават усялякія сродкі кантрацэпцыі. 41-ы артыкул Канстытуцыі ўвогуле патрабаваў, каб жанчына займалася хатняй гаспадаркай. Толькі ў 70-я гады пачаліся дэбаты наконт секулярызацыі ірландскага грамадства, але працэс гэты працягваецца і зараз. Важны аргумент за перамены — арганізатары паўстання 1916-га ў большасці выступалі за свецкую дзяржаву.

З улікам эканамічнага крызісу, часта ўзгадваюць, што добраахвотнікі бачылі незалежную Ірландыю дзяржавай з моцнымі сацыяльнымі інстытутамі. Толькі зараз, напрыклад, высветлілася, што жаночая фракцыя добраахвотнікаў патрабавала роўных з мужчынамі заробкаў, чаго няма і па сёння.

Як піша прэса, Ірландыя намагаецца па-новаму паглядзець на ўрокі паўстання. Замест сумных фармальных мерапрыемстваў, юбілей дае краіне моцны імпульс, штуршок для далейшага развіцця.



Фота www.dmirix.ru


Фота www.politcommersant.ge

# Вінніцкія ідуць

Алег НОВІКАЎ

**Пасля днепрапятроўскага, кіеўскага і данецкага кланаў да ўлады ва Украіне, на думку палітолагаў, прыйшоў вінніцкі.**

Яшчэ пасля абрання Пятра Парашэнкі на пасаду прэзідэнта ў маі 2014-га ўкраінская прэса жартавала, што ў Ліпках (сталічны ўрадавы квартал) стала занадта шмат машын з кодам АН (вінніцкая рэгістрацыя). Пасля прызначэння Уладзіміра Гройсмана (былы мэр Вінніцы), прэм'ерам, сумневаў наконт вінніцкай акупацыі Ліпак амаль няма. Цяпер з Вінніцы паходзяць прэм'ер, першы намеснік старшыні Апарату парламента, старшыня Дзяржаўнага кіравання і г.д.

«На вялікую палітычную арэну ва Украіне хутка і ўпэўнена выйшаў новы рэгіён — Вінніца. (…) «Час жыць па-новаму» (перадвыбарчы лозунг Парашэнкі) выліўся ў банальную змену кланаў, а метады і падыходы засталіся старымі, проста з усходняга пераехалі ў цэнтральны рэгіён», — піша інтэрнэт-выданне «Корреспондент».

Калі верыць назіральнікам, вінніцкі клан паўстаў вакол фігуры Парашэнкі па ходзе росту яго бізнесу і трымаецца на некалькіх кітах: мясцовыя рэсурсы бізнес-імперыі ROSHEN, свае людзі ў адміністрацыях плюс кантроль над дзяржаўнымі прадпрыемствамі і дробным бізнесам праз падпарадкаваныя рынкі.

Перад тым, як крытыкаваць Парашэнку, які здрадзіў ідэалам рэвалюцыі, трэба ўзгадаць пра наступствы той самай рэвалюцыі для макрапрацэсаў. На фоне дэіндустрыялізацыі ўсё большую ролю ў эканоміцы адыгрывае аграрны сектар. Напрыклад, у структуры ўкраінскага экспарту за першы квартал 2016-га года асноўныя артыкулы — кукуруза (12,6% ад экспарту) і алей (11%). Таму трансфер улады ад фінансава-прамысловых груповак накшталт данецкай або днепрапятроўскай да тых, якія звязаныя з агра- і прадуктовым бізнесам, у чымсьці заканамерныя.

Застаецца толькі паспрабаваць высветліць, з чым прыйшлі вінніцкія ва ўладу. Напрыклад, для адэптаў данецкага клану, як лічыць кіеўскі палітолаг Міхаіл Паграбінскі, была характэрная абсалютная абыякавасць да культурна-гуманітаранай сферы. Лічылася, што за кошт буйных праектаў (напрыклад, турніру Еўра–2012) можна будзе купіць лаяльнасць выбаршчыка, а апазіцыю, у крайнім выпадку, проста зачысціць сілавымі сродкамі.

Таму цікавыя высновы штотыднёвіка «Дзеркало Тижня», журналіст якога, прааналізаваўшы жыццёвы шлях новага прэм'ера, заключыў: «Ён (Гройсман) — сапраўдны ўкраінскі куркуль. Адзін з тых, на якім калісьці будавалася аграрная і ментальная сутнасць нашага народа». Выданне таксама пералічвае каштоўнасці, якія характэрныя сучасным куркулям, на базе якіх і будзе будавацца «мадэль кіравання дзяржавай па-вінніцку»: любоў да працы, упартасць, прагматызм, кансерватызм.

Да адмоўных бакоў Гройсмана можна аднесці эмацыйную рэакцыю на крытыку, правін-

## Менталітэт куркуля і рэнамэ прагматыка выклікалі захапленне Гройсманам у частцы ўкраінскага апазіцыйнага палітыткуму

цыялізм, вузкасць поглядаў. Пра апошняе сведчыць няведанне новым прэм'ерам замежных моваў і скандал з дыпломам. Пішуць, што цяперашні прэм'ер умудрыўся яго атрымаць за паўгода, хаця курс у ВНУ, дзе вучыўся будучы дырэктар Кабміну, трохгадовы.

Цікава, што менталітэт куркуля і рэнамэ прагматыка выклікалі захапленне Гройсманам у частцы ўкраінскага апазіцыйнага палітыткуму. Напрыклад, той жа Паграбінскі разлічвае, што прагматызм Гройсмана дазволіць адсунуць ад улады ідэалістаў, якія жывуць нейкімі рамантычна-нацыяналістычнымі пастулатамі XIX стагоддзя.

Ці адпавядаюць рысы куркуля сучасным выклікам на адрас Украіны, пакажа час. Між тым, у грамадскай дыскусіі адначасова прысутнічае думка пра тое, што ніякага вінніцкага клану няма. Так, вядомы эксперт Уладзімір Фясенка прызнае, што ў сталіцы сапраўды ёсць вялікая колькасць выхадцаў з Вінніцы, але каманду Гройсмана цяжка назваць вінніцкай. Фясенка і іншыя лічаць, што цяперашні ўрад хутчэй нагадвае сімбіёз розных палітсілаў, якія вырашаюць тактычныя задачы.

А тое, што Гройсман падчас перамоваў наконт формулы Кабміну закаціў гучны скандал, патрабуючы ўвесці ў яго склад былых паплечнікаў па вінніцкай мэрыі, — тэатральная інсцэніроўка. Скандал быў штучны і патрэбны, каб нейк давесці самастойнасць выканаўчай улады. Інакш бы сітуацыя ўжо занадта нагадвала часы Януковіча, калі прэзідэнт (як зараз Парашэнка) таксама кантраляваў усе галіны ўлады.

Акрамя таго, Кабмін Гройсмана трымаецца ў парламенце на галасах фракцый, за якімі стаяць алігархі Каламойскі і Ахметаў. Таму ўрад Гройсмана — не выразны лабіст інтарэсаў вінніцкага клану, а «акцыянернае таварыства», сябры якога будуць патрабаваць сваю долю ўплыву на курс працы ўраду. Не кажучы пра тое, што Гройсман трымацца аўтаномна ад Парашэнкі. У яго нават ёсць свая партыя, якая мае фракцыі ў мясцовых саветах. Палітолаг Віталь Кулік у сувязі з гэтым нават сцвярджае, што прэм'ер у хуткім часе пачне інтрыгаваць супраць «Кандытара» (мянушка Парашэнкі).

Нарэшце, у вінніцкіх вельмі мала часу для рэалізацыі нейкіх буйных праектаў. Рэйтынгі ўсіх украінскіх дзяржаўных інстытутаў і іх кіраўнікоў катастрафічна падаюць. Паводле статыстыкі групы «Рэйтынг», апублікаванай 16 красавіка, дзейнасць Пятра Парашэнкі ўхваляе ўсяго 2% украінцаў, а дзейнасць Вярхоўнай Рады, якой кіраваў Гройсман, не ўхваліў ніводны рэспандэнт. З такім мікраскапічным крэдытам даверу праводзіць нейкія сапраўдныя структурныя рэформы вельмі эфемерна, што дазваляе разглядаць прыход вінніцкіх як пераходную фазу да чагосьці пакуль не вельмі зразумелага.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Генадзь Зюганаў



Пад кіраўніцтвам лідара камуністы-дэпутаты ў расійскай Думе імкліва рыхтуюць папраўкі ў Адміністратыўны кодэкс, сутнасць якіх — узмацніць кантроль над выкарыстаннем георгіеўскай стужкі падчас хуткіх святкаванняў Дня Перамогі. Напрыклад, пакаранне чакае тых, хто прывязвае стужку да рэменя, сумкі або машыны, з-за чаго стужка хутка «ператвараецца ў брудную анучу». Будуць звяртаць увагу на прадпрымальнікаў, якія выкарыстоўваюць тэму Перамогі ў рэкламных мэтах. З тымі, хто парушыць правілы выкарыстання стужкі, правядуць прафілактычныя гутаркі, хаця ў Дзярждуме ўжо прапаноўваюць таксама ўсталяваць немалы штраф. Лічыцца, што кантраляваць выкарыстанне стужкі будзе не толькі міліцыя, але і грамадскасць. Прынамсі, у Маскве з дапамогай дэпутатаў ад КПРФ ужо ўзнік праект «Патруль Перамогі».

Незалежныя юрысты кажуць, што юрыдычна цяжка адрозніць наўмыснае апаганьванне сімвалаў ад выпадковага. Што тычыцца публікі, то яна смяецца, паколькі ўсё гэта нагадвае апавяданне Яраслава Гашака пра тое, як у нейкай піцейнай установе таемны паліцэйскі агент доўга шукаў, як атрымаць грошы з гаспадара. І нарэшце знайшоў нагоду: партрэт імператара, які «азначаў настойліва рэкамендаваны для кожнага «патрыятычны» настрой духу», быў заседжаны мухамі.

### Шарыф Ісмаіл



Прэм'ер егіпецкага ўраду абудзіў грамадства, якое пасля вайсковага перавароту 2013 года жыло паводле прынцыпу — лепш дыктатура ваенных, чым халіфат ісламістаў. Егіпцяне зноў пратэстуюць. Праўда, пратэсты непасрэдна тычацца не праблемаў грамадзянскіх свабод, а дзяржаўнай прыналежнасці выспаў Санафір і Тыран, якія знаходзяцца ў Чырвоным моры каля Сінайскага паўвостраву. Егіпет увесь час лічыў тыя выспы сваімі, але раптам Шарыф Ісмаіл пагадзіўся прызнаць іх тэрыторыяй Саудаўскай Аравіі, што і выклікала абурэнне грамадства.

Шэраг вядомых публічных асоб асудзілі рашэнне ўраду ў тым ліку таму, што гэта парушае канстытуцыю, якая абвяшчае згаданыя выспы часткай Егіпту. З архіваў выцягнулі нават мапы, калі Егіптам кіравалі фараоны, адміністрацыя якіх распаўсюджвалася на Санафір і Тыран. Пакуль гісторыкі спрачаліся, каля дзясятка тысяч грамадзян выйшлі на плошчу Аль-Тахрыр.

Цяпер пастанову пра перадачу Санафіра і Тырана павінен зацвердзіць егіпецкі парламент. Цяжка сказаць, чым скончыцца тое галасаванне, аднак відавочна, што ў авангардзе антыўрадавых пратэстаў амаль упершыню выступаюць не ісламісты, а сябры дэмакратычных арганізацый.

### Мішэл Цемер



Віцэ-прэзідэнт Бразіліі і былы фінансіст, нечакана стаў героем медыя. Паводле канстытуцыі, менавіта 76-гадовы віцэ-прэзідэнт павінен будзе заняць пасаду прэзідэнта ў выпадку, калі цяперашняя кіраўніца дзяржавы Дзілма Русэф усё ж сыдзе з пасады ў выніку імпічменту. Нагадаем, 17 красавіка ніжняя палата бразільскага парламенту прагаласавала за імпічмент прэзідэнта, якую падазраюць у карупцыі. Слова за сенатам, які прыкладна праз месяц таксама павінен прагаласаваць па імпічменце. Калі дзве трацiны сенатараў будуць «за», ім давядзецца правесці дэбаты і праз 180 дзён вырашыць лёс Дзілмы Русэф. З улікам сур'ёзнасці абвінавачванняў і атмасферы ў краіне, большасць назіральнікаў лічаць, што прэзідэнт будзе вымушаная пайсці ў адстаўку.

Такім чынам, прызначэнне на пасаду прэзідэнта Мішэла Цемера — толькі пытанне часу. Між тым, спрэчна, што Цемер доўга застанецца гарантам. Стаўленне да прадстаўніка ўрадавай «Партыі працы» ў грамадстве вельмі асцярожнае. Ёсць думка, што працэдура імпічменту павінна пачацца і супраць яго таксама. У Цемера вельмі слабыя шанцы выйграць пазатэрміновыя выбары, на якіх фаварытам дакладна будзе прадстаўнік апазіцыі ад Сацыял-дэмакратычнай партыі. У любым выпадку, сам Цемер ужо актыўна рыхтуецца стаць прэзідэнтам і абяцае адразу пасля інаўгурацыі зрабіць шматлікія перастаноўкі ва ўрадзе і прызначыць новых дырэктараў у дзяржаўныя карпарацыі.

22 красавіка 2016 | № 16 (481) Новы Час

# З уладамі размова не атрымалася

Прафесары Леанід ЛЫЧ
і Мікола САВІЦКІ

**Ад часу правядзення ў маі 1994 года рэферэндуму ў Беларусі бесканкурэнтна пануе мова суседняй краіны — руская. Датла зрусіфікаваныя, з дарэшты дэфармаванай нацыянальнай свядомасцю, беларусы маўчаць і трываюць, а гэта можа прывесці толькі да этнічнага вымірання.**



Фота www.gazetaby.com

Мы вырашылі выказаць сваю законную, аб'ектыўна абгрунтаваную трывогу высокім эшалонам улады і прасілі іх неадкладна, рашуча ўзяцца за выпраўленне перакосаў у дзяржаўнай моўнай палітыцы. Адказу ад тых, каму мы пісалі яшчэ 30 лістапада 2015 года (кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта, старшыні Палаты прадстаўнікоў, прэм'еру), мы так і не атрымалі. Таму вырашылі са зместам гэтага ліста пазнаёміць як мага больш шырокія колы беларускага грамадства:

«Беларусь ніколі не жыла без сур'ёзных, складаных праблем. Дастаткова іх і сёння, у тым ліку такая архіважная, як моўная: нацыятворная, жыццядайная і дзяржаватворная. На вялікі жаль, да ўзважанага развязвання яе яшчэ не прыступілі ні ўлады, ні само грамадства, што нельга апраўдаць ні элементарнай логікай, ні гісторыяй, ні нашым абавязкам перад цывілізаваным светам. Ад таго, як мы справімся з гэтай праблемай, наўпрост залежыць захаванне не толькі беларускай нацыі, але і самой дзяржаўнасці. Як найвялікшы, проста ўнікальны ва ўсім свеце парадокс: у XXI стагоддзі ў Рэспубліцы Беларусь на самім дзяржаўным узроўні адбываецца планавы працэс русіфікатарскай асіміляцыі яе тытульнага этнасу, прычым у форме яшчэ больш агрэсіўнай у параўнанні з польска-рускай асіміляцыяй XVIII — пачатку XX стагоддзяў. Падобнае суверэнным краінам з такім палітычным статусам, як у сучаснай Рэспубліцы Беларусь, зусім не ўласціва. Беларусь тут ставіць сусветны рэкорд!

Нацыянальная дзяржаўная палітыка апошніх дзесяцігоддзяў у Беларусі супярэчыць аб'ектыўным гістарычным і навуковым законам развіцця чалавецтва. У выніку поўнай неадпаведнасці гэтай непрадуманай палітыкі карэнным інтарэсам краіны, беларускі народ ужо панёс такія нічым не апраўданыя этнічныя страты, што перастаў быць падобным на самога сябе, паколькі ў яго жыцці страшэнна нестае свайго нацыянальна-беларускага, а пераважае знадворнае, чужое. Нават у асяроддзі народна-пабытавага думання ніякавата зняважліва ўспрымаецца стаўленне рускіх людзей да карэннага этнасу Беларусі. Апошнім часам і на самым высокім дзяржаўным узроўні не адважваюцца прызнаць беларусаў за самастойны народ, атаясамліваюць яго з рускім. Не адчуваючы ні на ёту ўсёй абсурднасці такога погляду, многія палітыкі, прычым не без гонару, называюць нас «русскими высшего качества». Во да чаго давяла закладзеная дзяржавай практыка самарусіфікацыі! А вось сярод палітычнага кіраўніцтва Расіі не пачуеш, што «русские — это китайцы высшего качества»? Не пачуеш таму, што ўлады гэтай дзяржава не акітайваюць рускіх.

Пэўна, многія думаюць: «Чаму ў нас усё так не па-людску?». Адказ тут вельмі просты, элементарны і для маладасведчаных людзей. У Беларусі свядома па волі дзяржавы забяспечваецца нават нехарактэрнае для савецкіх часоў бязмежнае панаванне рускага культурна-моўнага пачатку ва ўсіх сферах жыцця. І гэта нягледзячы на яе статус суверэннай, што не толькі дазваляе, але і канстытуцыйна абавязвае дзяржаву праводзіць у галіне культуры такую палітыку, якая максімальна ўлічвае этнічную самабытнасць тытульнага народа, надзейна ахоўвае яго ад любых формаў нацыянальнай дэградацыі.

Мэтанакіраваная, напэўна ж на вялікую радасць імперскай сучаснай Расіі, надзвычай эфектыўная палітыка прэзідэнцкай вертыкалі па стварэнні ў Беларусі аднолькавай з усходняй культурна-моўнай прасторы (яна практычна ўжо існуе ў сваім завершаным стане!) нічога не дае і не можа даць беларускаму народу, акрамя татальнай асіміляцыі. А гэта ж паўтарэнне трагічнага лёсу вялікай славянскай нацыі — ПРУСАЎ.

Ад няспыннага працягу культурна-моўнай русіфікатарскай палітыкі ў Беларусі асаблівай карысці не атрымае і суседка Расія, бо яе нацыянальная культура, мова і без такой незаслужана маштабнай прысутнасці ў нашай краіне маюць бязмежную прастору распаўсюджання. Яна можа так раздацца ўшырыню, што руская культура і мова нават страцяць сваю самабытнасць. Сусветнай практыцы такое вядома.

Растварэнне беларускага этнасу ў рускай культурна-моўнай стыхіі, што сёння так рэальна ў сваім завяршэнні, нясцерпным болем адгукнецца ў яго не толькі сёмым, але і сямідзясятым пакаленнях. У нашы дні гэта не можа інакш успрымацца як нейкае сатанінскае пакаранне. Пераважная большасць людзей пад цяжкім гнётам жыццёвай рэальнасці змушана звыклася з абсалютна пачварным асяроддзем, у якім яны амаль нідзе не чуюць свайго роднага слова, па радыё і тэлебачанні слухаюць галоўным чынам толькі рускамоўныя і да таго ж яшчэ пераважна папсовыя песні. Мала ў якіх краінах планеты Зямля, як у Беларусі, на дзяржаўным узроўні чужое шануюць больш за сваё. Мы ніколькі не сумняваемся ў тым, што на генным узроўні беларусы захоўваюць, шануюць і ганарацца сваім родным і чакаюць, калі «да нас прыйдзе зноў вясна» (Якуб Колас).

Верыцца, што так уласцівае сучаснаму свету імкненне моцна нацыянальна дэфармаваных малых народаў да аднаўлення, захавання сваёй самабытнасці, нягледзячы і на паглыбленне працэсаў глабалізацыі, у бліжэйшым часе абавязкова закране і бязлітасна этнічна абакрадзеных беларусаў. Да гэтага нам сёння трэба вельмі старанна рыхтавацца. І ў першую чаргу, несумненна, самой дзяржаве, бо ў найбольшай ступені па яе віне адбыўся страшэнны, ледзь не смяротны размыў прыроднага культурна-моўнага патэнцыялу беларускай нацыі. Высілкі ж толькі адных грамадскіх арганізацый, без падтрымкі дзяржавы, прадухіліць навіслую над беларусамі нацыянальную катастрофу не далі і не могуць даць жаданага пазітыўнага выніку.

Хоць мы недаравальна залішне спазніліся ў супрацьстаянні такой асіміляцыйнай навале, ёй трэба абавязкова пакласці канец, на што яшчэ ў нас ёсць усё неабходнае. Менавіта пра гэта мы, карыстаючыся дадзеным нам Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь правам, і пажадалі пагаварыць з самымі аўтарытэтнымі ў краіне ўладнымі структурамі: Адміністрацыяй прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Нацыянальным сходам Рэспублікі Беларусь, Саветам міністраў Рэспублікі Беларусь. Наспеў час азірнуцца і асэнсаваць, карэнным чынам выправіць, палепшыць рэальнае становішча ў культурна-моўнай сферы. Прыбліжаецца ж знакавая гістарычная дата — 25 год ад часу абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Да гэтай даты ўлады павінны хоць штосьці канкрэтнае зрабіць па выратаванні беларусаў ад цяжкіх, па-сапраўднаму смяротных наступстваў русіфікацыі.

Мы ад свайго імя вельмі просім вас тэрмінова давесці ўсяму народу пра наяўнасць у нас архісур'ёзнай агульнанацыянальнай праблемы: любымі сіламі і сродкамі спыніць далейшае руйнаванне нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў, бо гэта вядзе і немінуча прывядзе іх да этнічнага вымірання ў родным бацькоўскім доме. У самых агульных рысах наяўнасць такой праблемы мы ўжо акрэслілі. Але толькі ў самых агульных рысах! Каб жа прывесці людзей у шырокі, актыўны нацыястваральны адраджэнскі рух, дапамагчы ім паўней усвядоміць усё гістарычнае значэнне яго, патрэбна найперш непараўнальна больш грунтоўнае, сістэмнае растлумачэнне прычын нашага глыбокага да немагчымага нацыянальнага заняпаду. Калі народ зразумее іх, а гэта нескладана давесці яму нашай палітычнай і інтэлектуальнай эліце, ён вельмі хутка з аб'екта гістарычнага працэсу пераўтворыцца ў яго дзейсны суб'ект, стане надзейнай, незаменнай апорай дзяржавы ў правядзенні нарэшце адпаведнай яе нацыянальнаму інтарэсу палітыкі ў культурна-моўнай сферы.

Давесці ўсё гэта да глыбокага ўсведамлення людзьмі павінен у першую чаргу шырока разгалінаваны дзяржаўны ідэалагічны апарат, укамплектаваны кадрамі досыць высокай кваліфікацыі. З афіцыйных СМІ вядома, што сёння ў ім налічваецца прыкладна 10 тысяч чалавек! Армія немалая. Зразумела, сярод іх хапае і такіх, хто арганічна не прымае ідэі беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння, не лічыць тытульнае насельніцтва Рэспублікі Беларусь за самабытны народ, ганьбіць яго родную мову. Такіх ніяк нельга дапускаць да вядзення нацыянальна-культурнай працы, бо яны толькі нашкодзяць.

Беларуская нацыя ўшчыльную наблізілася да этнічнага вымірання, што не з'яўляецца яе ўласным выбарам, гістарычнай заканамернасцю. Гэтую нацыянальную катастрофу трэба неадкладна спыніць, бо паралельна з ёю ідзе і разбурэнне падмурка суверэннасці нашай здабытай такой дарагой цаной дзяржаўнасці.

Першы камень-валун у сістэмную дзяржаўную русіфікатарскую палітыку ў нашым Краі заклала імператрыца Кацярына II. Яе антыбеларускую палітыку нязменна працягвалі да скону царызму, а затым ужо аналагічнае рабілі партыйныя і савецкія органы ў перыяд знаходжання БССР у складзе СССР. Цяжка паверыць, але ўсё ж пагодзімся з тым, што не адпавядала і не адпавядае нацыянальнаму інтарэсу беларускага народа культурна-моўная палітыка ўсталяванай у краіне прэзідэнцкай сістэмы кіравання з яе выразным крэнам у гэтым пытанні ў бок Маскоўскага Крамля. На сваёй культурна-моўнай платформе — дый тое далёка не ў поўнай меры — беларускі народ будаваў нацыянальна-культурнае жыццё толькі ў самыя спрыяльныя гады міжваеннай беларусізацыі (1924–1929), у апошнія гады Гарбачоўскай перабудовы і да правядзення ў 1995 годзе майскага рэферэндуму. Такога гаротнага ў плане нацыянальна-культурнага, моўнага абрабавання самой дзяржавай народа, як беларускі, больш няма ў Еўропе. Няпроста адшукаць падобнага яму і ў Азіі. Але яшчэ не ўсё страчана. Надзея на выратаванне захоўваецца.

Таму, шаноўныя палітыкі і ідэолагі Рэспублікі Беларусь, настойліва просім, прапануем, рэкамендуем вам неадкладна і рашуча ўзяцца за святую справу выратавання беларусаў ад культурна-моўнай асіміляцыі! Зрабіце нарэшце неацэнны падарунак свайму так пакрыўджанаму чужымі і ўласнымі асімілятарамі народу, за што вам «Вялікі дзякуй!» скажа не толькі ён, а ўвесь цывілізаваны свет, так заклапочаны ў захаванні культурнай разнастайнасці на планеце Зямля. Не пакіньце яе без беларускай нацыянальнай культуры і мовы!

Знайдзіце час паглядзець па спадарожнікавых тэлеканалах, як жывуць і як шануюць сваё роднае нашы суседзі ў Расіі, Украіне, Польшчы, Літве, Латвіі. Асабліва рэкамендуем звярнуць увагу, на якіх мовах у гэтых краінах выконваюць службовыя функцыі дзяржаўныя чыноўнікі, на якіх мовах працуюць парламенты. Тады ў вас абавязкова ўзнікне заканамернае пытанне да самі сябе: «А чаму ж мы не такія, як яны?»

Высокія дзяржаўныя асобы! Пачуеце на гэты раз вы нас ці не, але мы будзем працягваць весці гутарку з вамі. Бо толькі размаўляючы і слухаючы адзін аднаго, можна зразумець праблемы і знайсці шляхі іх развязвання. Да ведама: па жыцці мы абодва крочым у дзявятым дзясятку.

Жыцьме беларуская нацыя!»

# Мова жыцця Зоры Кіпель

*«Так выглядае, што ў наш час можна мець дзве Бацькаўшчыны»*
*Зора Кіпель*

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ



Зора Кіпель

**Успаміны і дзённікі Зоры Кіпель, выбітнай дыяспарнай дзячкі, рэдактаркі газеты «Беларус», бібліятэкаркі, літаратуразнаўцы, чакаюць да сёння не проста свайго чытача, а сваіх спецыялістаў і папулярызатараў.**

Амаль тысячастаронкавы твор цікавы не проста як летапіс дыяспарнага жыцця ў Амерыцы і не як мемуары, а да ўсяго як цудоўная і неапрацаваная крыніца ведаў для мовазнаўцаў, палітолагаў, гісторыкаў, літаратуразнаўцаў і гендарных спецыялістаў. Мяне зацікавіла і шармавала перадусім мова спадарыні Кіпель. Багатая, адмысловая, адрозная ад метрапольнай беларускай мовы, дыяспарная мова, якая захавала важны, згублены ў нас пласт лексікі ў выніку русіфікацыі. Мова, якая пры ўсім эвалюцыянавала, адкрывалася ў сваіх пошуках і перадачы амерыканскай рэчаіснасці. Калі беларуская мова ў Беларусі празмерна апекавалася рускай мовай і пазычала словы з Захаду праз пасярэдніцтва рускай мовы, то дыяспарная беларуская мова смела кантактавала з англійскай ды іншымі мовамі і вынаходзіла розныя варыянты новых словаў без усялякай чужамоўнай апекі.

Укладальнік кнігі ўспамінаў Зоры Кіпель — Сяргей Шупа — ва ўступе слушна пазначае, што артыкулы і дзённікі Зоры Кіпель чакаюць даследавання мовазнаўцаў Беларусі. І сапраўды, у XXI стагоддзі аналіз мовы спадарыні Кіпель дапаможа ўзбагаціць цяперашнюю лексіку ці вырашыць праблему інтэграцыі ў сучасную мову пэўных варварызмаў-англіцызмаў (напрыклад, геаграфічных англамоўных назваў). Акрамя гэтага тэксты выбітнай дыяспарніцы цікавыя смелым эксперыментам па стварэнні наватвораў і ўжываннем кур'ёзных, а часам нязвыклых і смешных калькаў. Пазначым асноўныя




Вокладка кнігі ўспамінаў Зоры Кіпель, выдадзенай у Мінску ў 2010 годзе

цікавыя пласты лексікі ў тэстах Зоры Кіпель.

Геаграфічныя назвы, амерыканскія і аўстралійскія — Тэксас, Атлянтык Сіты, Нью Дзэрдзі, Пэнсільванія, Нэвада, Мангэтан, Флярыда, Адэйляда, Ньюёрк, Нью Брансуік, Аява, Гаваі (у Гаваі, у Багамы), іншыя — Гэлсінкі і Гэльсінкі, Лювен, Венэцуэла.

Гэта і тэхнічныя паняткі: ахаладжэнне і халадзільнік (кандыцыянер), круцёлка (вентылятар), газаліна (бензін), аэрадром (як аэрапорт), выладка (напр. батарэі), матаровы лятак, матароўка (лодка), джэт і джэтовец (рэактыўны лятак).

Цікавыя фемінітывы: боска, навукоўка, фрызерка (фрызёрка), рэдактарка, кіраўнічка, сцюардэса, нашчадніца. Аўтарка актыўна фемінізуе назвы пасадаў, хоць трэба адзначыць, што падчас рэдагавання газеты «Беларус» Зора Кіпель часта дазваляла сабе такія груваскія варыянты, як жанчына-следчая, жанчына-рэдактар, а часам і русізмы кшталту «парыкмакерша», «дырэктарша», «губэрнатарша».

Натуральна, варварызмы: парквэй, амбулянс, сабатыкал, плямбэрка, вікенд, лівінг, лоер, лоерскі, абстракт, лякатэр, дуана, фрызюра, ірытацыя, бранч, трафік, гамбургэрс, порч, кар(а), даўнтаўн, пунч, мушлі, сукцэс, шрымпы, зразыгнаваць.

Асобна варта пазначыць словы, якія рэдка трапляюцца з-пад пяра публіцысткі, але, якія могуць стаць цудоўнай заменай многім цяперашнім варварызмам ці проста вартымі сінонімамі. Пачну з майго ўлюбёнага слова «канцатыдзень» (замест вікенд, ўікенд ці выходныя). Побач з бранчам сустракаем снеданне-абед, з фрутай — фруктовае дрэва, вітра — вітраж, беларусіка і беларусаведа замест беларусазнаўства, смакалыкі — смачнасці, ласункі, паправа — рэабілітацыя, сімпатык — сімпатызант, прыхільнік, кампрамітовы — замест кампраметуючы, скарот — абрэвіяцыя, кухарка замест кулінарнай кнігі, візытар — візіцёр, лазун — памаўза, шкоднік, нефартунны — нешчаслівы, няшчасны, адпружана — спакойна, антычны магазын (крама) — антыкварная крама, распружыцца — супакоіцца, плавальныя курсы — плавацельныя, лучнік — лучво, хлебнік — пекар, этнік — чалец этнічнай суполкі і г.д.

Зрэшты, пазначым своеасаблівую манеру аўтаркі напісання і/ці выкарыстання пэўных словаў — трэйці (трэці), крыху-па-крысе (паступова, пакрысе), навучка (навука — «будзе нам навучка!»), запазнацца (пазнаёміцца), някурачы, някурачая (для непалячых, непалёнцаў, некурцоў), аларгія (алергія), уладзіцца (уладкавацца), фільмовая кампанія (кінакампанія), квоДар (чацьвяртак ад долара), хутчыня (хуткасць), рэчовы (істотны), экіпунак (экіпіроўка), чытань (чытанка), антыпсіхічныя пігулкі (антыдэпрысанты), Скарынінка (Скарынаўка), эвентуальна (зрэшты, нарэшце; магчыма), эфэктоўна (эфектна) і г.д.

Калі перафразаваць Зору Кіпель, то атрымліваецца, што мы цяпер нібыта маем не толькі дзве бацькаўшчыны, але і дзве беларускія мовы, і некалькі родных моваў наогул. Веданне, цікаўнасць рознымі варыянтамі беларускай мовы мусіць быць асновай узбагачэння сучаснай лексікі, і мы павінны ўсяляк унікаць маргіналізацыі такога важнага і непаўторнага варыянту, як дыяспарная мова, і тарашкевіца ўвогуле. Бо на сёння гэты варыянт змаргіналізаваны: аўтарам-тарашкевічанцам няма дзе друкавацца ў Беларусі, і нават у сецыве тарашкевіца паступова мізарнее. На першы план зноў выходзіць аднадум'е, аднадоб'е, змірэнчы прагматызм у выглядзе нібыта кампраміснага зрасійшчынага варыянта беларускай мовы. Тэксты дыяспарнікаў перавыдаюць у Беларусі і абавязкова кастрыюць — амаль «перакладаюць» на цяперашнюю беларускую мову Беларусі, артыкулы, якія дасылаюцца ў рэдакцыі беларускіх газет, таксама «чысцяцца» ад тарашкевіцы, як ад паршы, многія тэксты савецка-беларускіх пісьменнікаў атэісцкай загартоўкі «хрысціянізуюцца» (рэлігійныя паняцці, у тым ліку «бог», якія былі прынцыпова напісаны малымі, выпраўляюцца на вялікалітарныя) і г.д. І гэта ўсё робяць самі беларусы, — не Саветы, не расійцы, не палякі. Беларусы так навучыліся кантраляваць, цэнзураваць і маргіналізаваць сябе, што нават не дапускаюць думкі аб іншаўзуснасці, аб іншых колерах, фарбах і акцэнтах сваёй жа мовы.

Але ўзгадайма, якраз пасланне дыяспарнай беларускай мовы, у тым ліку ў версіі Зоры Кіпель, палягала і палягае ў супрацьстаянні і першапачатковай адмове рэфармавання мовы на расійскі капыл. Рэч простая і прынцыповая для дыяспары: мова расстралянай літаратуры была адна, цяпер, пасля рэформаў і знявечання беларускай мовы расійскай, яна цалкам іншая. І прыняць, а тым больш працаваць на мове знявечанай — гэта насмешка і абраза ўсіх тых, хто загінуў, тых, хто тварыў на мове прынцыповага рэзістансу і захавання традыцыі. А таму старая дыяспара так і не адмаўляецца ад мовы, некранутай чысткай.

Магутныя здабыткі, напрацоўкі дыяспарнай літаратуры і мовы часта малавядомыя і маладаступныя ў Беларусі. Пры гэтым цалкам параўнаныя з тым, што было зроблена ў метраполіі. А таму не трэба спісваць дыяспарнікаў, як мінарытарных, састарэлых і ўпартых бздурнікаў. У пэўны сферах дыяспарная культура стварала значна больш, чым метрапольная культура — напрыклад, у сферы перакладаў і стварэння перакладных слоўнікаў.

Перад тым як ляцець у Беларусь, якую Зора Кіпель не бачыла шмат год, яна, як сведчаць дзённікі, задавалася пытаннем, ці мае права яна ехаць і «калабараваць» з падсавецкай Беларуссю, з варожай і непрымальнай сістэмай? Як вядома, яна паляцела і пайшла на кантакт з паланёнай, у заўсёдных кнэблях магутнай усходняй суседкі радзімай, але ў моўным пытанні яна, як і многія яе аднадумцы-дыяспарнікі, засталася непахіснай і адданай замілаванкай непадсавецкай беларускай мовай. Яна прызнала ў 1991 годзе, што ў чалавека могуць быць дзве бацькаўшчыны, але мова ў спадарыні Зоры засталася ўсё ж такі адна — мова ўсяго яе жыцця.







Зора Кіпель, Васіль Быкаў і Вітаўт Кіпель

# Лесвіца ў неба Вітаўта Мартыненкі

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Беларусь развіталася з Вітаўтам Мартыненкам. Пайшоў з жыцця ўнікальны чалавек, які з маладосці паставіў для сябе мэту — жыць у беларушчыне. І рабіў тое нягледзячы на неспрыяльныя і нават варожыя ўмовы.**



Спачатку многія, хто ведаў Вітаўта, ставіліся да такога жыццёвага крэда з доляй іроніі: маўляў, дзівачыць! Але калі пабачылі вынікі яго працы на карысць беларускай справы, то стаўленне да яго метадаў карэнным чынам мянялася: з іранізуючых назіральнікаў людзі, якія яго атачалі, рабіліся яго паслядоўнікамі.

Калісьці па «Радыё Свабода» я паслухаў радыёварыянт вядомага эсэ Аляксея Каўкі «Ліст да майго рускага сябра», які стаў для мяне своеасаблівым апакаліпсісам: я па-іншаму глянуў на нявызначанасць сваёй нацыянальнай прыналежнасці, на свае моўныя прыярытэты, на перспектывы беларускай справы і будучыні Беларусі.

Першае, што я зрабіў: больш-менш вывучыў родную мову. Але, на жаль, на гэтым усё скончылася: далей была служба ў войску, праца электрыкам, вучоба ў БПІ, захапленне музыкай. А зрабіць далейшы крок на гэтым шляху мне дапамагло знаёмства з Вітаўтам, які аказаўся маім суседам і нават далёкім сваяком. Гэта абумовіла нашы пастаянныя кантакты, дыскусіі і з'яўленне агульных ідэй, практыкаванні ў размоўнай беларускай мове. Высветлілася, што мы абодва захапляемся сучаснай музыкай, абодва — калекцыянеры.

У тым маладым узросце Вітаўт ужо скончыў журфак БДУ і працаваў карэспандэнтам (а потым адказным сакратаром і намеснікам рэдактара) беларускамоўнай газеты «Чырвоная Змена». Аднойчы мой новы сябра запрасіў мяне ў рэдакцыю. Скончылася тым, што я выдаў у газеце некалькі матэрыялаў, якія матывавалі мяне кінуць сваю «электрычную» прафесію і заняцца журналістыкай.

Ужо тады, ад пачатку нашага супрацоўніцтва, мяне ўражвала крэатыўнасць мыслення Вітаўта. Памятаю, калі ў час нашых дыскусій з'явілася ідэя стварыць на базе «Чырвонай Змены» першы ў Беларусі музычны дадатак да выдання, то канцэпцыя і візуальнае афармленне «Нотнага аркуша» былі распрацаваныя за нейкую гадзіну.

За час нашага супрацоўніцтва такіх выпадкаў было шмат. Асабліва значным ходам стала правядзенне першага фэсту беларускамоўнай рок-музыкі «Тры колеры», які даў арыенцір выканаўцам у нацыянальным мастацтве: яно не можа быць ствральным, калі не карыстаецца роднай мовай.



**Вітаўт Матрыненка, Анатоль Сыс,Анатоль Мяльгуй на Дні Волі — 1989**

Калі «Тры колеры» заблакавалі і закрылі, Вітаўт высунуў ідэю правядзення такога ж фэсту, але ўжо на Беласточчыне. Фэст змяніў назву, і з дапамогай студэнцкага аб'яднання БАС свет пачуў пра «Басовішча».

Нас, як філафаністаў, у савецкі час вельмі турбавала, што адзіная ў СССР фірма грамзапісу «Мелодыя» зусім не звяртала ўвагу на беларускіх выканаўцаў. Каб разварушыць гэтую бюракратычную структуру, мы з Вітаўтам распрацавалі адмысловую стратэгію: накіроўвалі лісты з просьба выдаць кружэлкі беларускіх выканаўцаў у Кітаі, Індыі і іншых экзатычных краінах. Вітаўту, як аўтару, прыходзілі афіцыйныя адказы: маўляў, няма магчымасцяў, трэба час, каб пазнаёміцца з вашымі зоркамі. А адказы мы перанакіроўвалі на «Мелодыю». І гэта дало вынік: былі выдадзены дыскі «Мроі», двайнік «Хіт-парад Беларускай маладзёжнай», перавыдадзены дыск гурта «Уліс». Частым госцем нашай сталіцы стала перасоўная студыя гуказапісу «Мелодыі», якая на нашых вачах зрабіла ўнікальны запіс гурта «Бонда» з мэтай выдання сольніка.

Але мару пра «Бонду» ў сваіх калекцыях ажыццявіць не ўдалося. Час няўмольны: мы не заўважылі, як надышла эра кампакт-дыскаў. Тут для таленту «генератара ідэй» Вітаўта раскрыліся новыя далягляды. Нашае супрацоўніцтва з выдавецкай кампаніяй БМА-group Вітаўт скарыстоўваў, каб пашыраць слухацкую базу беларускай рок-музыкі. Па яго прапанове выйшла некалькі важных для сучаснай айчыннай культуры музычных серый: зборнік сусветных хітоў па-беларуску «Беларускі глобус», тэматычныя серыі «Hard Life — Heavy Music», «Hardcore манія: чаду!», архіўныя дыскі гурта «Мясцовы час», Данчыка, дыск гурта PARTYZONE «Трэба рабіць» і шмат іншага.

Мяне ўражвала, як Вітаўт сумяшчаў журналісцкую і выдавецкую дзейнасць з лінгвістычнымі праектамі ў галіне абароны роднай мовы.

Вялікім праектам я лічу транслітарацыю ў кірыліцу выдатнага рамана Генрыка Сянкевіча «Quo Vadis» (2002) у перакладзе па-беларуску ксяндза Татарыновіча. Да перакладу Вітаўт дадаў свае грунтоўныя каментары, якія выдаў асобнай брашурай «Свой сярод чужых (кантэксты, гістарычныя і лінгвістычныя асаблівасці беларускага перакладу ксяндза П. Татарыновіча)» (2003).

Як перакладчык, Вітаўт дадаў да тэксту выразаныя тагачаснымі ідэолагамі ўрыўкі рамана. Атрымаўся самы поўны тэкст Сянкевіча, які выходзіў на прасторах СНД.

Нельга не сказаць пра асабістую кампанію Вітаўта ў абарону роднага слова — кампанію за вяртанне ў беларускі алфавіт літары ґ выбуховага. І хоць яго праект не ўдаўся, але яго высілкамі наша агульная рок-энцыклапедыя «222 альбомы беларускага року і ня толькі» (2006, Менск) стала першай ластаўкай гэтага аднаўленчага працэсу. Дарэчы, ідэя Вітаўта паспрыяла таму, што літара ґ вярнулася ва ўкраінскі алфавіт. Гэта радавала Вітаўта, давала яму надзею на вяртанне вынішчаных беларускіх літар, адраджэння сапраўднай роднай мовы.

Апошнія гады майго сябра займаў праект выдання і рэалізацыі яго асабістай кнігі — «Rock on-line». Як я адзначаў у рэцэнзіях на яе, «Rock on-line» можна чытаць як сапраўдны постмадэрнісцкі раман, дзе ёсць і інтэрнэт-спрэчкі, і тролінг, і цытаты выдатных беларускіх мысляроў, асабістыя думкі, назіранні, высновы.

З мэтанакіраванасцю, якая была ўласцівая Вітаўту, аўтар вырашыў даказаць песімістам, што беларуская кніга мае попыт, чытачоў і прыхільнікаў. Гэта была тытанічная праца. Мой сябра вельмі ганарыўся тым, што ўвесь яе немалы наклад быў рэалізаваны, што дазваляла думаць пра будучыя выданні.

На жаль, няўмольны лёс не дазволіў спраўдзіцца ўсім задумам і ідэям Вітаўта.

**Фота з асабістага архіву Анатоля Мяльгуя**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 375

Падпісана да друку 22. 04.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.